# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 1 (185) (студзень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

kamunikat.org
novychas.online


## Змест





# Святлана АЛЕКСІЕВІЧ: «У нас дома гаспадараць новыя варвары»

**Вядомая беларуская пісьменніца і нобелеўскі лаўрэат Святлана Алексіевіч нядаўна дала інтэрв'ю DW. Яна расказала, чым жыве ў эміграцыі, чаму не вярнулася б цяпер у Мінск, нават калі б ёй гарантавалі бяспеку, пра сваю новую кнігу і пра тое, чым у выніку скончыцца «беларуская рэвалюцыя».**



Фота tut.by

***DW: За некалькі дзён да ад'езду пад вашым домам дзяжурылі таніраваныя мікрааўтобусы і супрацоўнікі ў цывільным. Вы таму і з'ехалі?***

***Святлана Алексіевіч:*** Так, у верасні 2020-га цягам дзесяці дзён пад маім домам дзяжурылі сілавікі ў цывільным. Нават кансьерж тэлефанаваў і прасіў не выходзіць. Адзін ці два разы да мяне дадому прыходзілі паслы еўрапейскіх краін — усе 18 чалавек. А потым па чарзе начавалі ў мяне дома. Я вельмі ім усім удзячная. За сябе і за тое, што яны робяць для ўсіх нас.

***— Пасадзіць нобелеўскага лаўрэата — сістэма Лукашэнкі магла пайсці на такі крок?***

— Што такое дыктатура? Гэта прымітыўная ўлада. Для яе няма такіх паняццяў, як прафесар ці нобелеўскі лаўрэат. Памятаеце дацэнта Наталлю Дуліну? Яна спала на цэментавай падлозе гэтак жа, як і яе вучаніцы. Або кардыёлага Аляксандра Мрочэка, якому падпалілі дачу? У нас дома гаспадараць новыя варвары...

***— Статус нобелеўскага лаўрэата ў выніку даў вам абарону?***

— Ва ўсякім разе я змагла з'ехаць у момант, калі на Каардынацыйную раду была заведзеная крымінальная справа. Лукашэнка ж ненавідзеў мяне. Калі быў юбілей — 70 гадоў, ні адна газета не напісала пра гэта. У прэзідэнта Польшчы Анджэя Дуды ёсць рознагалоссі з Вольгай Такарчук, тым не менш, яна — гонар Польшчы. І ўявіць, што ён не павіншуе яе з юбілеем, проста немагчыма. Гэта не толькі палітыка — гэта культура.

***— Калі вам уручылі Нобелеўскую прэмію, гэта ж таксама было праігнаравана на афіцыйным узроўні.***

— Так, акрамя незалежных СМІ, пра гэта паведамілі толькі нейкі з расійскіх тэлеканалаў...

Гэта не тая ўлада, якая адукоўвае народ. Беларусі патрэбен свой Гавел (Вацлаў Гавел — пісьменнік, драматург і дысідэнт, прэзідэнт Чэхаславакіі, а пасля незалежнай Чэхіі. — **Рэд.**). У нас быў Адамовіч, але ў 1990-я абралі Лукашэнку.

Але зараз наш народ абагнаў уладу. Сёння ён быў бы здольны абраць Адамовіча.

***— Народ цягнуўся ўверх і самаадукоўваўся...***

— Таму што час не спыніць. Прынцып травы. Сёння ты націскаеш кнопку ў кампутары або тэлефоне — і апынаешся ў вялікім свеце. Што з гэтым можа зрабіць улада? Можна пасадзіць усіх, але гэта скончыцца тым, што ў палітычным плане маладыя людзі будуць вельмі рана фармавацца, яшчэ ў школе. Улада сама стварае рэвалюцыянераў

***— Вы зараз жывяце ў Берліне. Ці стаў ён для вас домам?***

— Я ўжо жыла ў Берліне ў гады першай эміграцыі, калі мы з Быкавым (Васіль Быкаў — беларускі пісьменнік, з канца 1990-х жыў у палітычнай эміграцыі. — **Рэд.**) былі вымушаныя з'ехаць з краіны. Мне падабаецца дух Берліна і разнастайнасць тутэйшага жыцця. Я люблю Нямеччыну, удзячная ёй.

***— Калі і як вы зразумелі, што дарога дадому зачыненая?***

— Калі даведалася, што амаль уся Каардынацыйная рада сядзіць. Да таго ж мяне палохалі ўмовы нашых турмаў. З маёй хваробай адзін раз пераначаваць на халоднай падлозе — і ўсё, не трэба нічога іншага прыдумляць. Духам ты можаш гэта перанесці, але ж ёсць яшчэ і цела.

Маша Калеснікава, вядома, незвычайны чалавек. Яна выбрала такі шлях, захапляюся ёй. Я хацела напісаць кнігу аб усім, што адбываецца. Хто б даў мне зрабіць гэта ў Беларусі? Хто змог бы прыйсці да мяне ў дом, каб расказаць сваю гісторыю? Я б не змагла абараніць сваіх герояў.

***— У Беларусі ў вас засталася новая кватэра (з ранейшай, як вы самі згадвалі, вас выжылі кнігі) і лецішча, якія вы купілі пасля атрымання Нобелеўскай прэміі. Выходзіць, яшчэ пару гадоў таму сваю будучыню вы бачылі ў Беларусі?***

— Я і цяпер уяўляю сваё галоўнае жыццё дома.

У час першай эміграцыі ў мяне была магчымасць атрымаць кватэру ў Вене, і можна было застацца там. Але я хачу жыць у Беларусі. Я з цікавасцю езджу па свеце, шмат бачыла, але мне важна вярнуцца дадому. Там маё жыццё, мае героі, любімыя краявіды. Шкадую, што сыходзяць апошнія вясковыя старыя, якіх я памятаю з дзяцінства і вельмі люблю.

***— Калі б рэжым Лукашэнкі гарантаваў вам бяспеку, вы б вярнуліся дадому, у Беларусь, дзе зараз несвабода? Што для вас важней — дом ці вольная краіна?***

— Калі ты пісьменнік, то можаш жыць у сваім свеце, і не важна, дзе гэты свет знаходзіцца фізічна. Я ўжо чула такое ці то меркаванне, ці тое прапанову ад дыпламатаў, але адказала, што гэта немагчыма.

Як я буду глядзець у вочы людзям, якія пакінулі ў Беларусі маленькіх дзяцей, хворых матуль? Яны застануцца на эміграцыі, а я паеду дадому? Не ўяўляю гэтага, гэта будзе здрадай.

***— Вы ўжо год працуеце над новай кнігай. За гэты час вам стала больш зразумела, адкуль гэтая жорсткасць адных беларусаў да іншых?***

— Усе шукаюць адказ на гэтае пытанне. Я нават перачытала «Бесаў» Дастаеўскага. Можна паўтарыць павярхоўныя адказы, якія вандруюць з вуснаў у вусны. Але для мяне не адказ, што іх спецыяльна адбіралі і навучалі. Я сама ў жніўні 2020-га думала: гэта не беларусы. Не, беларусы!

Мая аднакурсніца распавяла, што яна выпадкова сустрэлася з іншай нашай аднакурсніцай, у якой унук працуе суддзёй. «Якое няшчасце, што Сярожа аказаўся суддзёй цяпер. Як гэта, напэўна, цяжка і страшна», — паспачувала яна. На што наша аднакурсніца спакойна адказала: «Нічога падобнага, мой Сярожа робіць кар'еру».

Мы думалі, можа, жонкі паўплываюць на сваіх мужоў, якія працуюць у сілавых структурах. Як можна ляжаць у адным ложку з чалавекам, які мучыў людзей, глядзець, як ён гладзіць тваё дзіця? Кажуць, у першыя дні яны атрымлівалі вялікія грошы, а потым, калі іх абмакнулі ў кроў, можна было ўжо не плаціць такія сумы. Калі ўсё пачыналася, у крыві быў адзін чалавек, а зараз — яны ўсё.

Ці гэтыя «ябацькі». На што яны абапіраюцца? Што гэта за людзі? Іх жа шмат. Няхай 20 працэнтаў — гэта ўсё роўна нямала. Каб пачаць грамадзянскую вайну, хопіць.

***— Вы нават такі варыянт дапускаеце?***

— Мы ўвесь час балансуем на грані. Паслухайце (тэлевядучага Рыгора — **Рэд.**) Азаронка. Гэта не журналіст — ён правакатар, які паднімае ўсе гэтыя гадасці з цемры чалавечай. Я нават выпісала некаторыя ягоныя словы і адзін раз выкарыстоўваю іх у сваёй кнізе.

***— У вашай кнізе можна будзе знайсці цытаты Азаронка?***

— Так, я хачу паказаць гэтых правакатараў і тое, што яны робяць з грамадствам.

***— На якія пытанні вы шукаеце адказы ў вашай кнізе? (Святлана Алексіевіч сыходзіць у свой кабінет і вяртаецца са сшыткам з запісамі.)***

— Іх шмат: пытанне вайны і міру — адно з іх. Ці ўсё ж мы мелі рацыю, што не хацелі крыві? Я ва ўсіх пытаюся пра гэта. І людзі падзеленыя, між іншым. Жадаю напісаць аб чалавеку ў масцы і спакусе цемры, аб тым, чаму мы дагэтуль жывем па кнігах Салжаніцына. Чаму па ўсёй нашай гісторыі вандруе цэлафанавы пакет на галаве арыштаванага? Чаму адны людзі хавалі пратэстоўцаў, а іншыя вялі туды амапаўцаў?

І яшчэ пытанне: нам давядзецца жыць з тымі, хто нас біў і катаваў. Як іх зразумець, каб не далучыцца да нянавісці? І яшчэ, і яшчэ... Адкуль узяліся гэтыя цудоўныя людзі, якія выйшлі на вуліцу? Як яны сфарміраваліся, хто іх бацькі? Мне важна як мага больш пра іх расказаць.

***— Як гэта пісаць кнігу, калі гэта няскончаная гісторыя з адкрытым фіналам?***

— Спадзяюся, пакуль напішу кнігу, фінал наступіць.

***— Уявім, што Лукашэнкі няма. Як жыць далей у адным грамадстве з людзьмі, якія незаконна затрымлівалі, судзілі, катавалі, збівалі, даносілі? З чаго павінна пачынацца новая дзяржава? З сумленнага суда, люстрацыі, прабачэння?***

— Гэта добрае пытанне: як з імі жыць потым? Я часта пытаюся ў сябе, як, напрыклад, людзі жывуць у Руандзе, калі сусед забіў тваіго бацьку, ты быў дзіцем, але гэта памятаеш?

***— Ці магчыма прабачэнне?***

— У мяне няма адказу на гэтае пытанне. Я толькі ведаю, што калі мы дапусцім у сэрцы нянавісць, то таксама пагрузімся ў цемру. Але як бацька можа дараваць скалечанага сына? Як маці можа прабачыць забітага сына? Пытанні, пытанні...

***dw.com***

# Памяць пра радасць



Алесь ЖУК

***14 лютага споўнілася б 85 гадоў культаваму пісьменніку Міхасю СТРАЛЬЦОВУ. У Мінску падчас гэтай даты пройдзе традыцыйны — 11-ы — Фестываль у гонар творцы «Вершы на асфальце», а «Літаратурная Беларусь» знаёміць з гэтымі згадкамі пра Міхася Лявонавіча.***

З Міхасём Стральцовым пазнаёміўся яшчэ школьнікам, калі пасля першае свае публікацыі ў «Нёмане» прывёз апавяданні ў «Маладосць». Стральцоў спадабаўся мне нечаканай ціхай усмешлівасцю і быццам сарамлівасцю, усё роўна як гэта ён, а не я прыйшоў са сваімі спробамі. Назіраў, як яго рука з алоўкам не адрывалася ад напісанага мной, акуратна, як школьнае сачыненне. Чытаў ён і курыў цыгарэту, тоненька віўся лёгкі дымок, нешта заклапочана перабіраў на сваім стале Мікола Аўрамчык, коратка пазіраючы то на мяне, то на Міхася. І пад той час, як было скончана чытанне, Мікола Якаўлевіч знік з кабінета. Чалавек вопытны, ён ведаў, якая будзе гаворка. Я не надта і запамінаў, што мне гаварыў Міхась Лявонавіч, бо прайшоўся ён і па радках, і па асобных словах. Я здагадваўся пра агульную ацэнку напісанага, бо яно таго і заслугоўвала.

Калі стаў студэнтам, працягваў насіць Стральцову напісанае. Ён чытаў, паўтараў памятнае мне з першай сустрэчы: «Разумееш, старычок», «тут нешта не тое, старычок...».

Пасля першае сустрэчы я яшчэ і са школы прысылаў напісанае, бо ён сказаў мне не пакідаць пісаць. З прысланага мной ён адобрыў толькі невялічкую навэлку «Балада». Для друкавання ў часопісе гэтага было мала. Тая навэлка спадабалася і Рыгору Бярозкіну, які быў кіраўніком семінара на нарадзе маладых пісьменнікаў на Свіцязі, яна і была надрукавана ў «ЛіМе» як твор удзельніка семінара. Пазней я памяняў назву на «Мужчыны»...

У той час сталі даступнымі чытачу Рэмарк, Фітцджэральд, Хэмінгуэй, барадатыя партрэты якога прадаваліся ў кіёсках «Саюздруку». Захапленне імі не магло не закрануць літаратурных пачаткоўцаў. Але ўсё тое замежнае было недзе далей, бліжэй было сваё, якое літаратуразнаўцы называлі лірычнай прозай, пачатай Янкам Брылём, падхопленае Міхасём Стральцовым, Вячаславам Адамчыкам... «Блакітны вецер» Міхася Стральцова не мог не паланіць тонкай паэтычнасцю, настраёвасцю, мелодыкай фразы, псіхалагічнасцю, дакладнасцю пісьма, увагай да канкрэтнага жывога чалавека. Пасля заідэалагізаванай, груваcткай па пісьму, груба канструяванай літаратуры было ап'яненне ад гэтага свежага, новага струменю. Магчыма, цяпер, перачытваючы напісанае амаль усімі з першага і наступных «філалагічных» пакаленняў, можна прыдрацца да самамэтнага любавання словам, захаплення пластыкай фразы, маляўнічасцю і настраёвасцю, але тое не было даганяннем ні Буніна, ні Чэхава. То быў аб'ектыўны працэс, калі беларуская літаратура павінна была ў сціслы час дараспрацаваць тое, што пачынаў у сваіх ранніх апавяданнях Кузьма Чорны, што закладваў у сваіх творах Максім Гарэцкі, ды і не толькі яны, але і іншыя дачасна загубленыя беларускія пісьменнікі. Няхай і была зададзенасць, але здабыткі напісанага «філалагічнымі» пакаленнямі маюць мастацкую вартасць. А што датычыць Міхася Стральцова, то ім напішуцца хрэстаматыйныя творы, што відавочна ўжо сёння.

Першае апавяданне Міхась Стральцоў надрукаваў у 1957 годзе, кніга апавяданняў «Блакітны вецер» выйшла ў 1962-м. Адразу была заўважана і чытачом, і крытыкай, стала з'явай у беларускай літаратуры, бо вельмі асвяжальны і патрэбны быў гэты блакітны вецер. Адрэагавала на кнігу Стральцова і артадаксальная крытыка, — вядома ж, адмоўна. Наступная кніга прозы Міхася Стральцова «Сена на асфальце» выйшла ў 1966 годзе.

Хаця першае апавяданне было пазначана 1957 годам, усе пазнейшыя кнігі: «Сена на асфальце», выбранае ў «Бібліятэцы беларускай прозы», «Выбранае» 1987 года (як даўно не перавыдаваўся Стральцоў!) будуць пачынацца «Трыпціхам», цыклам з трох невялічкіх апавяданняў. Першае мае назву «Трывожна крычыць птушка». Стральцоў невыпадкова на першае месца ставіць пазнейшае па часе напісання. Ужо першы зборнік Міхася Стральцова адметны тонкай стылістычнасцю, пазначаны творчай індывідуальнасцю. У «Трывожна крычыць птушка» чалавек, істота далёка не вечная на зямлі, пададзены сам-насам з вечнаю прыродаю, яе прыгажосцю. У ім неспадзявана ўзнікае разуменне гэтай кароткасці чалавечага жыцця на зямлі, і гэтае разуменне абуджае ў ім падсвядомую трывогу за драматычнасць кароткасці чалавечага жыцця. І вось гэтае адчуванне стварае своеасаблівы стральцоўскі настрой. Гэтым настроем будзе падсвядома няўлоўна падсвечана ўсё напісанае Міхасём Стральцовым: і ў прозе, і ў паэзіі, і ў «Загадцы Багдановіча».

Сама назва кнігі «Сена на асфальце» дала назву таму, што адбывалася ў жыцці. Нечаканая імклівая пачала адыходзіць у нябыт беларуская вёска, вясковы чалавек рабіўся гарадскім жыхаром, яму трэба было стварацца і асвойваць новы лад жыцця. Чалавек разгубіўся, сёй-той пачаў проста прападаць у новых умовах, астатнія імкліва перараджаліся, дарваўшыся да спажывальніцтва, якое намнога болей даступна ў горадзе, чым у вёсцы. Міхась Стральцоў болей амаль не вяртаўся да гэтае тэмы, ён толькі абазначыў яе, даўшы ёмкую назву новаяўленаму гараджаніну, — «сена на асфальце». А праява гэтая была складаная, адгалоскі яе чуваць яшчэ і дасюль, бо ў выніку атрымалася з людзей не толькі «сена», але і дэнацыялізаваная «пацяруха» ў вялікіх і малых гарадах. Ды і сама вёска, якую былі аб'явілі «неперспектыўнай», не надта паддавалася «абгарадзенню», а калі і засвойвала, но не лепшае з гарадскога ўкладу жыцця, імклівa пачала траціць стагоддзямі намытыя залацінкі сапраўдных чалавечых каштоўнасцяў, нацыянальнага характару ды і проста чалавечай годнасці і самапавагі. Ёй і сёння, новай, патрэбен падмурак для станаўлення, падмурак стагоддзямі назапашанага жыццёвага вопыту...

Але тады ў творчасці Міхася Стральцова быў толькі, няхай адразу ста́лы, але пачатак; яго болей прываблівалі «вечныя» тэмы, тэма загадкі самога творчага пачатку ў чалавеку. Інакш ён не ўзяўся б пісаць «Загадку Багдановіча». «Загадка» будзе пазней. А пакуль што маладосць і сучаснасць брала сваё, ды і тое, што хацелася сказаць у прозе, не было яшчэ сказана. У жыцці ўжо былі не толькі Лагацкія, але і «Светы Іванавічы донжуаны», была і проста маладая радасць жыццю. За «Свет Іванавіч...» Стральцову перападала больш за ўсё ад крытыкі, пра якую ўжо гаварылася.

Была яшчэ і памяць дзяцінства, самая моцная ў чалавеку. Міхась Стральцоў, як і яго равеснікі, дзіцячымі вачыма бачыў вайну і перажыў пасляваеншчыну. Назва апавядання «На чацвёртым годзе вайны» падсвечана эпіграфам з К. Случэўскага: «И капля вод полна трагедий / И неизбежности полна». Герой апавядання нават не мае ўласнага імя, ён проста «малы», ён жыве са старымі, і на ўсіх іх адно гора, гора вайны. А для малога і яго



Міхась Стральцоў

сям'і — пахаронка на бацьку. Апавяданне пранізліва-балючае праўдаю простага чалавека, тым, што робіць яму вайна.

Пазней гэты «малы» атрымае ўласнае імя ў аповесці «Адзін лапаць, адзін чунь»... Пасляваенная вёска, холадна і галодна, нават няма чаго абуць, каб выйсці з хаты хлопчыку Іванку, якому б найвялікшаю радасцю было пастральць з рагаткі па верабʼях. Які маленькі абмежаваны свет Іванкі і яго дзеда Міхалкі! І гэтак апаэтызаваны сумнымі зімовымі краявідамі. Гэта адчувае і Іванка, і дзед Міхалка. У яго жыццё канчаецца, ён гэта ведае. У другога наперадзе яшчэ многа радасці — цэлае жыццё. Але і на краёчку жыцця дзед Міхалка шкадуе Іванку за яго беднае дзяцінства, з горыччу думае, што ў ягоным жыцці ўжо нічога не засталося, акрамя шкадавання. Іванка шкадуе дзеда за тое, што ён ужо зусім старэнькі. Адно жыццё гаротна канчаецца, другое жыццё гаротна пачынаецца. Гэтая аповесць як не адна іншая рэч пранізана шчасцем і трагізмам, паэзіяй чалавечага жыцця. Усё гэта дасягаецца найперш тым жа стральцоўскім настроем. Дакладнасць псіхалогіі, паэтычнасць, бездакорная стылістычнасць тут усяго толькі інструментарый.

Ад'язджаючы з вёскі ў горад, я забыўся дома часопіс «Маладосць» з аповесцю Міхася Стральцова. Калі прыехаў у наступны раз, мама спытала, ці ведаю Стральцова, колькі яму гадоў. Яна прачытала аповесць. Мама пражыла цяжкае сірочае дзяцінства. Ды і пазней за работаю ёй не было калі чытаць. Літаратуру яна ведала толькі тую, якую некалі вучыла ў школе. Ад яе я пачуў і запомніў не толькі Купалавага «Хлопчык і лётчык», але «І лягла цішыня / У бары за гарой, / Каб дрывінка адна / Хоць кіўнула сабой», Коласава «Не сядзіцца ў хаце / Хлопчыку малому». А «Савося-распусніка» мама чытала па памяці ўсяго. Калі я сказаў, колькі гадоў Міхасю, паківала галавой: «Якая душа ў чалавека: такі малады, а так пра нас усіх напісаў». Прызналася, што калі чытала, плакала. Часопіс папрасіла пакінуць.

У гэтай аповесці ўжо прагучаў Стральцоў-паэт:

*Ноччу бязлюднай і цёмнай,*
*Іду па зямлі,*
*Высачэзны і лёгкі,*
*Пакалыхваючыся ад тугі.*
*Галава прыгнулася пад небам,*
*Я плачу.*
*Зоркі — слёзы мае.*
*Спяць гарады і вёскі,*
*Я над імі іду.*
*Высокі, пахілы і лёгкі,*
*Пакалыхваючыся ад тугі.*
*Шукаю шэрую вёску,*
*Вёску сваю.*
*Баюся:*
*Вышэзны і лёгкі,*
*Не прысяду там на парог,*
*Як самалёт рэактыўны не сядзе*
*На травяністым аэрадроме...*
*Я плачу.*
*Зоркі — слёзы мае.*

«Адзін лапаць, адзін чунь» выйшла ў 1970 годзе. У 1973-м Стральцовым будзе напісана «Смаленне вепрука», па-сур'ёзнаму апошняя яго празаічная рэч, і будзе выдадзена кніга паэзіі «Ядлоўцавы куст».

«Смаленне вепрука» нельга раскласці па састаўных, нельга разабраць, сыходзячы з крытычна-літаратуразнаўчых пастулатаў. Гэтае апавяданне — адно з тых рэдкіх твораў у літаратуры наогул, якое не паддаецца разгляду. Ужо з паўстагоддзя з часу яго напісання, а яно і сёння найперш і на слыху, і на духу, калі гаворка заходзіць пра Міхася Стральцова, яно запатрабаванае і сённяшнім маладым чытачом. Яно ў нейкім магічным крыштале скандэнсавала ўсё, што турбавала і цікавіла пісьменніка праз усё літаратурнае жыццё. Апавяданне скрозь паліфанічнае, асацыятыўнае. Канкрэтныя дэталі ператвараюцца ў сімвалы, абагульненні, узнікае трохмернасць адчування і разумення, памяці і існасці сённяшняй, пазначаны пункціры ў будучае. Надзвычай багаты інструментарый, але не ён галоўнае і не ён самамэта. Ідзе пераўвасабленне пісьменніка ў аб'ект пісання, у сына, у гаспадара. Героямі апавядання іх назваць ніяк нельга. Пісьменнік адкрыта гаворыць, што намагаецца загнаць у падтэкст напісанае, а на самай справе ён намагаецца вывесці да чытача напісанае. Канструкцыя, выкарыстаныя Стральцовым прыёмы дазваляюць свабодна перамяшчацца ў часе, праецыраваць напісанае на будучае і ўжо ад яго вяртацца ў сённяшняе. Стылістыка Стральцова мяняецца ад музычнай, пластычнай па ладзе фразы да кароткай, у якой пазбягаюцца эпітэты. Нешта такое ў зачатку было ў ранніх апавяданнях Кузьмы Чорнага. Вось апісанне сон, і пасля яго кароценькі абзац:

«Ва ўсіх нас ёсць ці была маці, і, на жаль,не заўсёды добрыя прыходзяць да нас тэлеграмы...».

Жыццё і смерць, драматызм і трагізм чалавечага жыцця паўстае за ўсім гэтым у самым зачатку жыцця і няўмольна ідзе следам.

*«...І раптам побач, ці не за драўляным плотам, у гародчыку, коратка і жаласна ціўкнула птушанё. Гэта як бы нейкі знак быў, і ён спыніўся і пагледзеў туды. Халаднаватая чырвань аблівала бэз, павеў скразнявога ветру, і цені ад яго затрапяталіся на жоўтай сцяне, і зноў прыцішана жаласна ціўкнула птушанё. Тады ён прыгледзеўся і ўбачыў яго. Ён бачыў яго блізкае, тое сумнае натапыранае, шэрае птушанё, гэтак бясконца, незразумела адзінокае ў знаёмай яму і, мусіць, не першы раз аблюбаванай засені падвечаровага куста. На сцяне, на вялікіх прасцягах горада памірала сонца, і што адчуваў, каму і на што жаліўся ён, гэты жывы маленькі камячок, натомлены за дзень нейкім сваім, зразумелым яму, а мо і зусім незразумелым клопатам? Што гэта: страх, натужанае чаканне непасільнага празарэння ці чуйна, вусцішна і раптоўна абасобленасць ад усяго і разлад з усім? І ці не так трывожыць, гняце незразумелым нейкім сэнсам і самога чалавека тужлівая палоска расхінутай на захадзе вечаровай зары?...».*

Успомнім тое, на пачатку намі гаворанае «трывожна крычыць птушка», і запомнім гэтую вечаровую чырвань. Яны яшчэ ўзнікнуць.

Пра каго і дзеля каго і чаго гэта напісана? Пра сябе і кожнага з нас?.. Наогул пра жыццё?..

У канцы апавядання «Смаленне вепрука» напісана: «Наіўны, ён хоча перамагчы сапраўднасць, ён хоча верыць: я засцярогся ад бяды — бо сказаў. Дабро і надзея тут накрэслілі свой круг». Не дапамаглі ад бяды ні засцярога, ні круг надзеі і дабра, ды і круг — дзеянне закончанае...

Пісаць пастаянна ў такім напружанні, як напісана «Смаленне вепрука», нельга, такога напружання і самааддачы вытрымаць доўга немагчыма, але і па-ранейшаму пісаць ужо немагчыма нават на адным узроўні. Пра гэта дакладна сказала Бэла Ахмадуліна: «Писать, как хочу, не умею, / Писать, как умею, — зачем?».

У прадмове да «Выбанага» Міхася Стральцова Алесь Адамовіч справядліва напісаў: «У літаратуры так: нават усе разам і нават выдатныя не могуць замяніць аднаго — калі гэта сапраўдны талент». І

Заканчэнне на стар. 3 »

# Памяць пра радасць

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 2

яшчэ Алесем Адамовічам было сказана: «Я, напрыклад, упэўнены, што сярод таго лепшага, што будзе выразней заўважацца заўтра, хрэстаматыйна загучаць назвы такіх твораў: «На чацвёртым годзе вайны», «Адзін лапаць, адзін чунь», «Смаленне вепрука», «Загадка Багдановіча»... Сказана прароча. Адамовічу хацелася, і ён спадзяваўся, што Стральцоў вернецца ў прозу. Ён не вярнуўся. Хутчэй таму, што паліфанічнасць, асацыятыўнасць, шматмернасць, свабоднае перамяшчэнне ў часе — паштодзённы інструментарый паэта. Проза патрабуе пэўных абавязковых атрыбутаў, якія я называю «радамі», якія мусіш пісаць. Але, можа, Стральцоў і вярнуўся б да свайго заяўленага «Конь гуляў па волі», калі б захацелася «павольнічаць» у прозе — напісаць нешта нечаканае.

З'яўленне эсэ «Загадка Багдановіча» было і нечаканым, і чаканым. Чаканым таму, што Міхась Стральцоў быў ужо вядомы як тонкі, глыбокі прафесійны крытык, які не абмяжоўваў сябе толькі «поўзаннем» па канкрэтным творы, а глядзеў на яго ў кантэксце і ўсёй творчасці самога пісьменніка, і ў кантэксце літаратуры ў цэлым. Гэта датычыла і класікаў, і сучаснікаў. Нечаканым было таму, што так раскавана і шматбакова на Максіма Багдановіча ніхто яшчэ не спрабаваў глянуць. Не варта забываць, што Багдановіча яшчэ трэба было даносіць, нават прапагандаваць. Яго тады яшчэ бясспрэчна не называлі класікам. Найбольш значнаю на той час была чыста літаратуразнаўчая праца Алега Лойкі. Стральцоў паспрабаваў глянуць на Багдановіча шырэй, прасачыць яго шлях да беларускасці такога высокага кшталту. І паглядзець на Максіма як на проста жывога чалавека, якому было звычайна і цяжка, і адзінока — «маладому вераб'ю блага». Стральцову ўдалося падаць Максіма шчаслівага ў творчасці і няшчаснага ў жыцці. Магчыма, Стральцова турбаваў і самога нейкі трывожны знак, як і Багдановіча: ён быў упэўнены, што памрэ ў такім ўзросце, як і маці, ад сухотаў.

Міхась Стральцоў зрабіў у сваім эсэ цікавае назіранне: напісаныя на рускай мове Багдановічавы вершы ўяўляюць сабой даволі звычайнае пісанне, тыя ж вершы на беларускай мове набываюць іншае, сапраўднае гучанне. Тут ужо, відаць, загадка самой мовы. Мова, як і вада, якая забяспечвае чалавеку яго біялагічнае існаванне, прывычная і паштодзённая. Але таямніца вады і на сённяшні дзень не спасцігнута навукай. З моваю хутчэй за ўсё тое ж самае. «Вне родного языка мысли человека чужеродны...» — гэта Гегель.

«Багдановіч, побач з Купалам і Коласам, тое трэцяе вымярэнне, без якога немагчыма перспектыва. З Багдановічам нам стала далёка відаць на ўсе канцы свету», — сцвердзіў Міхась Стральцоў паўстагоддзя назад. А наконт загадкі Багдановіча, то сам жа Стральцоў сказаў, што кожны талент — гэта загадка. Сёння ўжо ў акадэмічнай гісторыі беларускай літаратуры адкрытым тэкстам сказана і пра загадку самога Міхася Стральцова...

Міхась Стральцоў прыйшоў у паэзію адразу стала. Інтанацыю яго верша, як і яго празаічны настрой, нельга зблытаць ні з кім. У свой час Блок запісаў такую думку: «Стиль всякого писателя так тесно связан с содержанием его души, что опытный глаз может увидеть душу по стилю, путем изучения формы проникнуть до глубины содержания». Крыху груваста, але дакладна.

Яшчэ задоўга да «Ядлоўцавага куста» мне давялося правесці ноч з Міхасём Стральцовым на яго новай кватэры, калі ён застаўся адзін. Амаль адзінай «мэбляй» у кватэры былі звязкі кніг ягонай бібліятэкі. І ноч напралёт Міхась




чытаў вершы. Ён многа памятаў з айчыннай, замежнай і з рускай паэзіі. Але тады ён чытаў найболып Блока. Магчыма таму, што ў самога яго пачыналася такая невыносна цяжкая паласа, якія, як мінімум, два разы перажыў і Блок. Пра гэта можна было толькі здагадвацца: пра асабістае жыццё Міхась не гаварыў. Пазней ён напіша пра той час у вершы:

*Вось сівізна — а мудрасць дзе?*
*А мо пакорлівасць бядзе*
*Завецца словам гэтым?*
*Бяда ідзе, бяду вядзе:*
*Калі міне, сустрэне дзе,*
*Пасварыць дзе са светам...*

А тады, быццам ратуючыся ад скрухі, ён чытаў такія паэтычныя шэдэўры Блока:

*Ты рванулась движеньем*
*испуганной птицы,*
*Ты прошла, словно сон мой, легка,*
*И вздохнули духи, задремали ресницы,*
*Зашептались тревожно шелка.*

І раптам цяжкае, аб адзіноце ў вялікім свеце людзей, і пра сваё маленькае дарагое:

*...Над смрадом, смертью и страданьем*
*Трезвонят до потери сил...*

*Над мировою чепухою;*
*Над всем, чему нельзя помочь;*
*Звонят над шубкой меховою,*
*В которой ты была в ту ночь.*

А пасля ці то каб крыху супакоіцца і падбадзёрыць мяне сваім «всё будет хорошо, старичок», ці то каб вярнуцца ў цёплы туман паэзіі і сагрэцца ў ім:

*Всё, что минутно, всё, что бренно,*
*Похоронила ты в веках!*
*Ты, как младенец, спишь, Равенна*
*У сонной вечности в руках.*
*.................................*
*А виноградные пустыни,*
*Дома и люди — все гроба.*
*Лишь медь торжественной латыни*
*Поет на плитах, как труба.*

Паэзія самога Міхася Стральцова, у адрозненне ад таго ж Блока, не такая размашыстая і прагна ўсёахопная, хаця не меней філасафічная, я б сказаў, болей лірычна праніклівая і нават пяшчотнтая. Хаця метад параўнанняў заганны, калі гаворка заходзіць пра творчасць, напрыклад, для беларускай крытыкі заганны найперш тым, што творчасць аўтара міжвольна падвёрстваецца пад нейкі адпаведнік, нават пры большай відавочнасці таленту, пад творцу з шэрагаў «старэйшага брата». Хаця могуць быць і адваротныя выпадкі, калі творчасць у экстазе ўзносімага на вяршыні новаяўленага творцы пачынае лунаць нават і над сусветнай класікай. Праўда, і тое ўзнясенне, і тое лунанне звычайна вельмі кароткае па часе, і знікаюць неяк самі па сабе вельмі ж незаўважна.

Паэт — гэта чалавек, які застаецца адзін на адзін са светам, з сусветам, і спасцігнутае ім павінна адазвацца ў душах іншых, калі ён не зможа так сказаць, то ён застанецца адным са звычайных — усім людзям дадзена і адчуваць, і перажываць, адзінкам дадзена расказваць пра гэта іншым. Марына Цвятаева безаглядна смела сказала на пачатку творчасці: «Моим стихам, как драгоценным винам, настанет свой черед». Наконт сябе яна ўвогуле не памылілася, хаця і самым-самым вінам прыходзіць свой канец...

Найвялікшае з цудаў, якое стварыў чалавек, гэта музыка, потым паэзія. Проза — чорны хлеб літаратуры. Музыку, паэзію трэба слухаць, жыць ёю, перажываць і суперажываць, тлумачыць яе нельга, яна сама гаворыць за сябе.

*Лёг, маленькі-маленькі*
*На шамоткім плашчы*
*І падціснуў каленькі*
*Перад мечам начы.*

*........................................*

*Яны талмудзяць і глякуюць,*
*У іх сабака ў доме ёсць.*
*Прадбачу хвілю, у якую*
*Да іх прыходзіць раптам госць.*

*З якой, з якой, з якой пустыні?*
*Абтрос ён пыл з вунь тых дарог.*
*Няхай вячэра ваша стыне.*
*Хацелі Бога вы? Ёсць Бог.*

Цытаваць Стральцова я магу многа, таму спынюся . Урэшце, *паэзію перачытваць трэба сам-насам, а не ў цытаванні.*

...Тады, калі Міхась зайшоў да мяне ў «ЛіМ», у ім нешта было ад далёкае і цяжкае дарогі. Ён быў у акуратным касцюме, пры гальштуку і не выглядаў змардаваным тым цяжкім лячэннем. Той жа прыжмур яго зеленаватых вачэй, той жа да болю знаёмы мне дымок ад цыгарэты. Я глядзеў на яго, і мне ўспаміналася адзін з пагодлівых, ужо не спякотных, але цёплых і ласкавых асенніх дзён. Шчодра раскашавала ў парку Купалы барвовае, жоўтае, чырвонае лісце. Яго не пачыналі яшчэ згрэбаць і вывозіць з паркаў і сквераў. Ад гэтага лісця, ад яснасці, сонечнасці душу кранала нейкая і адначасна журботлівая радасць.

Угледзеў Міхася Лявонавіча нечакана — адзінокага на лаўцы. Ён сядзеў задумлівы і журботны ў такі святочны восеньскі дзень. Я тады не адважыўся падысці да яго...

Цяпер перада мной сядзеў на многа пасталеўшы і многае перажыўшы чалавек. Мне здалося, што ён адчувае нейкую палёгку. Так бывае з чалавекам, калі ён прыняў рашэнне. Неўзабаве Міхась пачаў працаваць у «Нёмане». Жыццё, на якое, на жаль, заставалася ўжо зусім мала часу, наладзілася і пайшло звыклым парадкам. Пісаліся кнігі. Да прозы Міхась так і не вяртаўся...




Магіла творцы

Дазволю сабе працытаваць адзін верш з «Ядлоўцавага куста» цалкам.

***

*Душа поет не то, что море...*

Ф. Цютчаў

*Прайшло, мінулася, як дым...*
*Няпраўда. Жыў я не за тым.*

*Няхай у гордай паняверцы*
*Сабе мы кажам «трын-трава»,*
*Зусім не тое тчэцца ў сэрцы,*
*Як часам трызніць галава.*

*І боль, і смех, сваім павевам*
*Ускалыхнуўшы сон душы,*
*Памруць, але не згінуць. Дрэвам*
*Такой не дадзена мяжы.*

*Свайго няма для іх. І травы,*
*Хоць імі прарастаем мы,*
*Не пад цяжарам гнуцца славы,*
*І не ад скрухі лес нямы.*

*Няхай не так. На гэтым свеце,*
*Калі закончыцца мой век,*
*Жальбу травы усё ж не вецер*
*Спасцігне — родны чалавек.*

...Пішучы гэтае эсэ, я перачытваў напісанае Стральцовым і пра Стральцова, Багдановічам і пра Багдановіча, Блока і пра Блока. Паэтаў зусім розных і па часе, і па тэматыцы, і па задачах, якія яны кожны ставілі перад сабою, адным словам, розных, розных, розных бясконца... Але звязаных неаспрэчна адным: талентам Божай міласцю дадзеным. І яшчэ — кароткасцю свайго быцця на зямлі.

Азірнёмся на трагічна кароткі час у зямным сваім існаванні айчынных творцаў, сусветных. Калі б скласці спіс, якім бы ён атрымаўся жахліва агромністым! У свой час суровы Міхаіл Еўграфавіч Салтыкоў-Шчадрын адназначна сцвердзіў, што літаратура не падуладна тленню. Дык гэтыя дачасныя смерці ці нішто іншае, як даніна, якая збіраецца з пісьменнікаў за іх непадуладнасць смерці, бо праз іх гэтая непадуладнасць працягаецца і на ўсё чалавецтва?

*Молчат гробницы, мумии и кости, —*
*Лишь слову жизнь дана:*
*Из древней тьмы, на мировом погосте*
*Звучат лишь Письмена.*

Паглядзім на сонечны захад і сонечны ўсход, на іх кругазварот, — аказваецца, ідзе спрадвечнае змаганне святла і цемры, і яно ніколі не бывае бяскроўным.

...Як гэта ўсё было нядаўна і даўно: у шэсцьдзясят восьмым годзе ўжо мінулага стагоддзя і тысячагоддзя, прадстаўляючы рускаму чытачу кнігу прозы маладога Міхася Стральцова «Что будет сниться», Янка Брыль пісаў: «На кожнай стральцоўскай старонцы я перш за ўсё бачу аднаго галоўнага героя — абаяльны вобраз самога аўтара, чалавека культурнага і душэўнага, з вострым позіркам на праўду і няпраўду, сапраўднага інтэлігента з народа, вельмі нядрэнна засвоіўшага шматпакутную, складаную мудрасць часу. Шчыры чалавек, таленавіты пісьменнік ідзе па жыцці з добраю і журботнаю ўсмешкаю. Так хадзілі даўно і нядаўна яго вялікія папярэднікі. З гэтакім жа сумам, шчаслівым болем за ўсіх і за ўсё, горка і радасна ўсведамляючы сябе паэтам. І гэта не сузіральнасць, якой палохаюць нас некаторыя крытыкі, гэта высокая любоў прыгожага, новага, на чым і трымаецца жыццё».

Так праз дзесяцігоддзі ідзе да людзей сваімі творамі Міхась Стральцоў — і не аддаляючыся, а набліжаючыся да новых пакаленняў.

# Васіль БЫКАЎ: «Мы яшчэ не наеліся чорнага хлеба праўды»

**«Літаратурная Беларусь» працягвае друкаваць фрагменты гутарак Юрася ЗАЛОСКІ з Народным пісьменнікам Беларусі Васілём БЫКАВЫМ, — на гэты раз пра ісціну, абагуленую ў мастацкай форме, гістарычную памяць, вайну і мараль, уладу і свабоду творчасці.**




Фота Сяргея Шапрана

***Васіль БЫКАЎ:*** — Час зараз такі, што трэба закансерваваць тое, што ёсць, — ад разбурэння самім часам. Таму што часы надыходзяць такія, калі і камуністычныя парадкі здадуцца ліберальнымі, бо пры камуністах хоць бачнасць нейкай дэмакратыі захоўвалася; хай не было сапраўднага росквіту культуры, дык хоць яна так не вынішчалася...

***Юрась ЗАЛОСКА: — Літаратура і мастацтва ў чарговы раз адступаюць перад напорам самога жыцця?***

— У чарговы раз...

***— А што цяпер чытаецца?***

— Некаторыя рэчы вельмі хораша кладуцца на душу. Гэта тыя, каторыя найменей атаясамліваюцца з літаратурай. Вот сведчанні, дакументы. Толькі што прачытаў кнігу Аскоцкага... Вот ляжыць, яшчэ не дачытаў, раман Кастуся Акулы — «Змагарныя дарогі».

***— І як ідзе чытанне?***

— Гэта — іншае. Я яго не разглядаю як раман, бо для мяне гэта найперш дакумент, сведчанне лёсу, інфармацыя, тут менш за ўсё прэтэнзіі на мастацкасць. І гэта якраз хораша, таму што я пазнаю сутнасць. Усё-такі гэта праблема нашай гісторыі. Тое, што мы называлі калабарацыянізмам і калабарантамі і адпаведна да іх ставіліся, як цяпер бачыцца, было куды больш складаней. Існавалі і калабаранты, і калабарацыя — даволі значныя на Беларусі. Я заўсёды пра гэта гаварыў. Калі ў Беларусі было каля мільёна партызан, і яны ваявалі, дык з кім жа яны ваявалі? Гэта камуністы рабілі такую падмену, што, маўляў, партызаны ваявалі быццам з немцамі. На самай справе якія немцы — у той час як фронт стаяў пад Масквой?.. Немец быў у лепшым выпадку адзін на раён, у раённай адміністрацыі. З кім жа тады ваявалі шматтысячныя партызанскія арміі? Зразумела, з кім — з паліцэйскімі фармаваннямі, каторыя, як і партызанскія злучэнні, рэкрутаваліся з беларусаў альбо з суседзяў — літоўцаў ці ўкраінцаў. Гэта ж атрымалася абсалютна спантанна — Хатынь. Трагедыю Хатыні спрабавалі аднесці на рахунак немцаў, а папраўдзе яе спаліў канкрэтны 118 украінскі паліцэйскі батальён. Дык вось, што датычыць калабарацыі: прыблізна столькі ж, колькі партызан, было і калабарантаў. І тое, што тут адбывалася, мела ўсе прыкметы грамадзянскай вайны. Нямецкія рэгулярныя войскі ў гэтую справу ўлезлі тады, як фронт падышоў к Полацку. Тады яны акружылі і зліквідавалі ўсю партызанскую зону. «Прарыў» — гэта эўфемізм: разгром быў заменены на «прарыў». Які прарыў? Прарваліся рэшткі... Немцы ўмелі гэта рабіць, гэта не Чачня, партызаны для іх не ўяўлялі ніякай небяспекі... Яны іх акружылі і задушылі меней чым за месяц. Рэшткі, каторыя прарваліся з блакады, пасля хаваліся ў Селіцкай пушчы, я пра гэта пісаў. У густых хвойках яны прывязваліся рамянямі да вершалін і там сядзелі. Ды немцы пусцілі сабак, каторыя аблайвалі дрэвы. Немец падыходзіў і даваў уздоўж ствала некалькі чэргаў... Пасля вайны, у 1947 годзе, калі я прыязджаў на радзіму, на тых хвойках яшчэ бялелі партызанскія косці, абдзёўбаныя вараннём... Вот чым мне цікавая кніга Кастуся Акулы. Я адкрываю ў ёй многае, таму што ў часе вайны тут не быў. Я бачу ў гэтым рамане найперш дакумент, сведчанне, хоць і разумею, што ў жыцці нешта магло быць трохі іначай. Тым не менш, калі гэта напісана падрабязна і шчыра, дык шмат што чытаецца між радкоў, у падтэксце.

***— Напэўна, для стварэння мастацкага твора не абавязкова ўдзельнічаць у падзеях? У Вас жа — шэраг партызанскіх аповесцей...***

— Мабыць, не абавязкова.

***— А што Вам давала штуршок, можа быць, эмацыянальны, каб нейкую ісціну абагуліць у форме мастацкага твора?***

— Быў нейкі імпульс, які быў галоўны, а пасля ўжо з'яўляўся нейкі антураж, нарошчваліся падрабязнасці раманнага плана... За партызанскую тэму я ўзяўся позна, доўгі час пра гэта не пісаў, хоць і жыў у Беларусі. Усё, звязанае з партызанкай, было вакол, і яго было даволі. Партызанскае асяроддзе, так бы мовіць, працягвала існаваць у сваіх апасродкаваных наступствах. Але я сябе адчуваў проста недастаткова інфармаваным, каб пісаць на гэтую тэму. Я пісаў пра іншае. І ўзяўся я недзе на пачатку 70-х, калі ўсе аўтары-партызаны ўжо выказаліся, перайшлі да іншых тэм. Тады я ўбачыў, што там засталося шмат чаго цікавага і значнага, і ўзяўся за гэтую тэму, напісаў «Круглянскі мост», іншыя рэчы...

Удзельнічаць у падзеях не абавязкова, хоць і пажадана. Але найбольш пажадана, каб гэта было ўсё-такі ў магчымай меры адлюстраваннем гістарычнай праўды, а не проста нейкім аўтарскім самавыяўленнем з нагоды чагосьці. Безумоўна, гэта рызыкоўная рэч. Як я цяпер разумею гэтую справу, зусім не абавязкова рэканструяваць тагачасную атмасферу. Можа быць, важней іншае. Кажуць, Талстой не быў удзельнікам вайны 1812 года. Але ж гэта — Талстой. Талстой мае права нават на скажэнне гісторыі, на памылку, бо для чалавецтва гэта важна, таму што гэта звязана з Талстым. Калі Талстой памыляўся, то яго памылкі, можа быць, нават важней за нейкую ісціну, або, прынамсі, таксама важныя. Аднак гэта не значыць, што кожны чалавек мае права на такую ж памылку — кожны не мае, таму што памылка кожнага ёсць проста памылка, а памылка Талстога — гэта ёсць акт, каторы мае светапоглядное значэнне для культуры наогул...

***— Гэта значыць, што першасны мастакоўскі імпульс як бы не звязаны ні з асабістым вопытам, ні з жыццёвымі перажываннямі, гэта нешта іманентнае?***

— Ну вот я скажу наконт першай сваёй «партызанскай» аповесці. Была такая кніжка, выдадзенная пасля вайны, каторая, мабыць, і не перавыдавалася, — здаецца, «Ніколі не забудзем» называлася. Гэта — расказы дзяцей, сведкаў і ўдзельнікаў вайны. Там мне запомніўся адзін расказ — пра тое, як адзін хлопчык вельмі прасіўся падарваць мост, і яму партызаны дазволілі. Ён яго падарваў, але сам загінуў. Мне тады падумалася, што разумныя рэдактары такіх рэчаў не друкавалі б... Мне здалося, што гэта абсалютна амаральна — рызыкаваць жыццём іншага, у той час як гэта вызваляе ад рызыкі жыццё ўласнае. Ды ў нас мараль вядома якая — маралі не было наогул, асабліва што датычыць вайны. На вайне гэта было спрэс, і на фронце, і ў партызанах, і дзе заўгодна: той, хто аддаваў загад, не толькі не рызыкаваў, але яшчэ і адводзіў рызыку ад сябе. На гэтым будавалася ўся ваенная працэдура. Генералы, распрацоўваючы аперацыю альбо аддаючы загад, разлічвалі на поспех, і гэты поспех забяспечваў ім кар'еру. Іншая справа, калі выходзіла няўдача... Якім коштам усё гэта дасягалася? Было ж шмат выпадкаў, дый што выпадкаў — гэта было спрэс, — калі людзі, каторыя выконвалі загад, — гінулі. І тое было вядома загадзя — што яны загінуць. Але, тым не менш, яны выконвалі загад... У нас праблема загаду ніколі не абмяркоўвалася. У нас прынята ў парадку рэчаў, што калі ёсць загад, дык ён павінен быць выкананы; не мае значэння, ці гэты загад важны для лёсу вайны, ці гэта капрыз п'янага генерала...

Дык вось я напісаў тады «Круглянскі мост», дзе, мне здалося, ставіцца вот такая праблема. І яна ж па-ранейшаму актуальная — цяпер, у мірны час. Памятаеце, была такая міфалагема — «в жизни всегда есть место подвигу». Гэтае «место подвигу» толькі ў таталітарным грамадстве «всегда есть». А на самай справе «подзвігам» заўсёды прыкрываліся невыгодныя рэчы. «Подзвігам», ахвяраваннем людскога жыцця выкупляліся чужыя памылкі ці нават злачынствы. Ці суадносіліся калі гэтыя дзве каштоўнасці — подзвіг у імя нечага і жыццё чалавека? Канечне, таталітарнай сістэме патрэбны былі подзвігі, патрэбна было выхаванне менавіта ў атмасферы гатоўнасці да подзвігу — але гэта не па-хрысціянску.

***— Такім чынам, для Вас важней заўсёды нейкая маральная ісціна?***

— Канечне, маральная ісціна. Пасля яшчэ важна, што амаль за кожным «подзвігам» стаяць злачынцы...

***— Гэта значыць, у Вас спярша ўзнікае самая агульная задума, а дэталі дадаюцца пасля, і невядома, чым можа скончыцца твор?***

— Не, я заўсёды ведаю, чым скончыцца твор.

***— ?***

— Я не магу сказаць, што «ідэя» заўсёды першасная, і затым адно абрастае нейкім жыццёвым антуражам. Часам яна ўзнікае спачатку — ідэя; ідэй увогуле многа, але яна не знаходзіць пэўнага мастацкага ўвасаблення, застаецца голай ідэяй, голай думкай...

***— І тады пішацца публіцыстыка?***

— Відаць, так. А бываюць шчаслівыя выпадкі, калі ідэя знітавана з нейкім жыццёвым фактам, з эмпірыямі жыцця. Яна недзе там, у свядомасці ці пасвядомасці нейкім чынам пераварваецца і затым выяўляецца ў форме мастацкага твора, напрыклад, кароткай аповесці. Мне гэтая форма была найбольш даспадобы.

Я асвойтаўся ў гэтым жанры. Гэта было блізка да майго густу. Я не меў задум і намераў, як некаторыя, пісаць беларускую «Вайну і мір». А многія з празаікаў пісалі шматтом'е...

***— На Вашу думку, старая формула «змест супадае з формай» — справядлівая?***

— Так, безумоўна.

***— Перад тым, як сесці за стол, Вы «выношваеце» твор?***

— Гэта натуральна. Гэта хіба ў шматтомных эпапеях, над каторымі ідзе доўгая, шматгадовая праца, у працэсе якой мяняюцца не толькі сюжэт і характары герояў, але і светапогляд самога аўтара, нельга нешта прадвызначыць. Калі я пачынаю пісаць твор, то ведаю яго канец.

***— Гэта падобна на тое, як пішацца паэзія: верш нараджаецца «ўнутрана» і затым адно заносіцца на паперу.***

— Гэтак жа і ў навелістыцы, кароткай прозе.

***— Дарэчы, ці захапляецеся паэзіяй, можа, спрабавалі пісаць вершы?***

— Не, паэзіяй я не захапляўся. Я люблю кароткія празаічныя рэчы. Для мяне ідэальны верш — тры страфы. Вот чаму, напрыклад, я лічу, што ідэальны гімн для Беларусі — «Магутны Божа» на словы Наталлі Арсенневай. Доўгія рэчы я не люблю. Выключэнне, хіба, толькі «Новая Зямля» Якуба Коласа, хоць яе прыцягальнасць, можа быць, не столькі ад паэзіі, колькі ад іншага чагось... У паэзіі і прозе для мяне вельмі важны лаканізм. Ёсць дзве сучасныя школы прозы — нямецкая і французская. Першая, нямецкая, вызначаецца незвычайным шматслоўем; вялікім лаканізмам — другая, французская. Я бачу, што апошнім часам у нас знайшла перайманне нямецкая школа прозы. Пішуць падрабязна і вельмі доўга. І ў нас, і ў расійскай літаратуры таксама.

***— Калі ўжо гаварыць пра беларускую літаратуру, то, напэўна, у ёй Вы маеце свае прыхільнасці. Каго б Вы маглі назваць?***

— Дасавецкі Купала, безумоўна, вельмі важны. Гэта — апостал беларушчыны, незалежна ад яго пазнейшых паводзінаў. Хоць пасля ён напісаў і фальшывыя рэчы — што ж, мы ж ведаем, як тады было жыць і пісаць — пісаў для паратунку, гэта ж адчуваецца ў радках і між радкоў. Але найбольш важна тое, што ён напісаў раней, з чыстым сэрцам, калі меў натхненне. Тое застанецца назаўсёды. Мы бачым усе яго светапоглядныя ўстаноўкі і грамадзянскія памкненні... Багдановіч, Колас, каторы пражыў больш і, безумоўна, зазнаў эвалюцыю... Можна растлумачыць і бачыць гэтую эвалюцыю.

Самае галоўнае, я лічу, — што творчасць усё-такі павінна быць свабоднай. Калі пясняр свабодны, то ён змагаецца і гаворыць на поўную сілу. А калі ён у нейкім палоне — найбольш у палоне ва ўлады, — то яго творчасць становіцца сумнеўнай. Улада папросту распаўсюджвае яго дэкларацыі — палоннага, — але ўсе яны фальшывыя. Нават калі ён гаворыць «праўду», то яна не можа лічыцца за праўду, бо ён робіць гэта не як свабодны чалавек. Ён робіць гэта, накшталт як закладнікі ААН у Босніі кажуць у інтэрв'ю, што там ім хораша... Яны змушаны гэта казаць, каб уратаваць жыццё.

***— У гэтых адносінах маладое пакаленне ў беларускай літаратуры непараўнальна больш свабоднае, чым старэйшае.***

— Так, новае пакаленне больш свабоднае. Найперш яно свабоднае ў сваім выбары, бо мае такія магчымасці. Іншая рэч, як гэтыя магчымасці будуць рэалізаваны. Гэта ўжо залежыць ад іх саміх, ды і не толькі ад іх...

***— Значыцца, дэкларацыі французскіх экзістэнцыялістаў аб свабодзе творчасці — запавет для сучаснага мастака ці літаратара?***

— Экзістэнцыялізм — гэта важна... Я памятаю, як «Чуму» Камю Твардоўскі назваў «евангеллем дваццатага стагоддзя». Пасля я прачытаў гэты твор і ўбачыў, што гэта так... Сартр — некалькі іншая справа. А Камю я паважаю, гэта вялікі мастак і прарок. Толькі неяк усё гэта драматычна скончылася — з экзістэнцыялізмам. Што мае пачатак, павінна мець і канец...

***— Камю загінуў у аўтамабільнай катастрофе, а Сартр кінуў літаратуру і пайшоў выкладаць ці не марксісцкую філасофію ва ўніверсітэт...***

— Так, там яны маюць такі, я б сказаў, палітычны ці то філасофскі снабізм. Маюць такую патрэбу і такія магчымасці. Гэта ёсць у высокаразвітых нацыяў, у адрозненне, скажам, ад нашай. Мы яшчэ не наеліся чорнага хлеба праўды, каб дазволіць сабе ісці, скажам, у нетры Джойса. Усё гэта хораша, але — для снобаў. Для грамадства ж, каторае яшчэ не спазнала элементарную праўду пра сябе, праўду свайго існавання, — спасцігаць розныя шызафрэнічныя таямніцы не выпадае. Зрэшты, калі нехта такую патрэбу мае — калі ласка. Мне ж гэта проста нецікава...

*Чэрвень 1995 г.*

# Прага спрадвечная



Марыя ВАЙЦЯШОНАК

***

*у белым полі*
*першая чорная*
*баразна*
*пад сонцам*
*першы дзявочы*
*прабор*
*каб заплесці*
*вербалозы ў косы*

**7 красавіка 2018**

## Ля калыскі

*Устаць раней*
*Пераняць сонца на рукі*
*Як дзіця з цёплага ложка*
*І разам у поле*
*Свежая ралля*
*Ловіць вуснамі зерне*
*Зямля як дзіця*
*Гуляе на волі*
*Да позняга вечара*
*Поўняй асвечана*
*Я чуйна засынаю*
*Каля ейнай калыскі*
*Каб устаць раней*

**22 красавіка 2018**

## Спакуса

*апошні яблык*
*як першы*
*вісіць заружавеўшы*
*здымаю з галінкі*
*бы з рук у рукі*
*з сухога лісця і галля*
*як кастрышча*
*складаю вершык*
*стаю ў садзе*
*ў паўбурносіку*
*непрыбраная*
*а сама такая адданая*
*гэтаму вечнаму імгненню*
*быццам самае першае на свеце*
*жаночае стварэнне*
*апошні яблык…*

**29 лістапада 2018**

***

*Іду берагам*
*сохнуць на сонцы*
*мярэжы*
*сетка рабіца*
*трэск рыбінай лускі*
*ў мяне пад нагамі*
*бягу*
*спяшаюся*
*ў біду*
*ў ваду*
*кідаюся*
*голая*
*як на нераст*

**13 траўня 2019**

***

*Кажаш:*
*самота*
*туга*
*спаганяеш скруху*
*а я калі нават дрэўка грабель*
*кладу сабе на плячо*
*яно мне рунай*
*ваяркі духу*

**6 верасня**

## Вецер

*Увесь дзень*
*і ўсю ноч*
*вецер раскручвае*
*свае сцягі*
*палошча на паўсвету*
*а за ім ціша*
*і санітарная карэта*
*ў якой спіць*
*сплаканае дзіця*
*ягонай перамогі*

**11 лютага 2020**

## На змроку

*Божа*
*я выбрала сваё гора*
*як чорную ваду*
*са студні*
*да самага донца*
*ветрае маё пустое вядро*
*на асверы*
*пакуль не падыдзе*
*падземны чысты ручай*
*а на сённяшні дзень*
*адна верхаводка*
*на змроку часу*
*злітуйся*

**5 сакавіка 2020**

***

*устаць на золку*
*выйсці ў цёмныя сені*
*адчыніць дзверы*
*падняць вочы*
*і ты ў небе*
*як у іншым пакоі*
*свайго дома*
*усміхнешся*
*быццам*
*убачыў таго*
*хто ўстаў*
*раней за цябе*

**2 красавіка 2020**

## Крумкач

*За плотам суседскім*
*ляжаў на зямлі*
*крумкач*
*пад чорным крылом*
*пад чорным плашчом*
*цэлы дзень*
*сама ў сабе*
*я бачыла*
*як ён падымаўся*
*назаўтра*
*яго ўжо не было*
*ягоны шлях*
*чорнай стужкай*
*на маім ілбе*
*калі я ўсё лета*
*хавала ад яго птушанят*
*гнёзды*
*гнёзды*
*а зімой*
*у марозы*
*карміла яго*
*калі прылятаў з лесу*
*амаль з рукі*
*чорны птах*

**11 снежня 2020**

***

*Што такое Радзіма*
*іншы раз пытаюцца*
*лепей у птушак*
*запытаць*
*куды яны і чаму*
*з выраю*
*вяртаюцца*

**11 студзеня 2021**

## Радзіма

*І зноў як на тое свежы снег*
*вы чулі?*
*да нас з выраю*
*ўжо першыя птушкі*
*прыляцелі*
*і такая цеплыня*
*ва ўсім целе*
*быццам нас*
*стала болей*
*тых хто яшчэ на волі*
*і тых хто ўжо ў няволі*
*але галоўнае*
*што на Радзіме*

**6 сакавіка 2021**

## У жмені прарастаю

*Радзіма*
*пясок*
*гліна*
*балаціна*
*я да зямлі як да маці*
*ганьбы не маю*
*нахіляюся*
*бяру ў руку*
*мёрзлае грузалле*
*размінаю*
*і ў жмені*
*прарастаю*

**2 красавіка 2021**

***

*Незнарок абламала*
*галінку бярозы*
*смех пачуўся*
*смех кароткі*
*скрозь слёзы*
*мне ў твар*
*на вусны*
*пырснула*
*салодкім сокам*

**22 красавіка 2021**

## Адзінае

*маланка*
*перакрэсліла мае думкі*
*маю памяць*
*паліла мае чарнавікі*
*я ледзь паспела*
*выхапіць ліст*
*ад незнаёмага мужчыны*
*адзінае*

**1 ліпеня 2021**

## Прага спрадвечная

*поле маё ўзаранае*
*свежая ралля*
*хваля за хваляй*



Фота facebook.com

*да майго берага*
*пад самы парог*
*іншы раз*
*тапельца выносіць*
*чалавека*
*які чужых зямель прагнуў*
*тады я тўга звязваю*
*сваю галаву*
*падымаюся*
*на абарончую вежу*
*каму заўтра зямля*
*пад маімі нагамі*
*будзе належыць?*
*каму будзе належыць*
*мая воля?*
*спрадвеку*
*хвалюецца*
*ўзаранае поле*

**6 жніўня 2021**

## Скрыжаванне

**Р. А.**

*Усё скончылася*
*ўсё не мае аніякага сэнсу*
*а жыццё стромкай плынню*
*блізка*
*па руках*
*па сцёгнах*
*абышло мяне з усіх бакоў*
*і рушыла далей*
*я ўстала*
*абедзьвума рукамі*
*выціснула на сабе*
*мокры ад слёз падол спадніцы*
*і пайшла падвязваць шпажнік*
*нахілёны да зямлі дажджамі*
*па гараскопу кветкі Стральцоў*
*за ўсё жыццё*
*мне не ўдалося*
*разняць скрыжаванне нашых шпагаў*

**17 верасня 2021**

## Поле

*позна ўвечары*
*скончылі араць*
*поле*
*яно прыпаднялося*
*на локаць*
*як для гаворкі*
*ноччу за фіранкай*
*я чакала ранка*
*каб нарэшце*
*нагаварыцца*

**28 верасня 2021**

## Праводзіны

*выйшла з дому*
*і адразу*
*трапіла*
*ў клін жураўліны*
*некалькі крокаў разам*
*я павінна штодзень*
*на поўдзень*
*развітацца*

**18 кастрычніка 2021**

## Палянцы

*поле забаранавана*
*ягоныя скібы лусты лехі*
*выгладжаны*
*рукамі перасланы*
*ад берага да берага*
*толькі жураўлёў голас*
*я люблю цябе поле*
*ад самай падэшвы*
*калі яшчэ і кветка не развіхнулася*
*і не наліўся колас*
*слоў не знаходжу*
*маё паходжанне*
*босымі нагамі выхаджана*
*выстаяна малітоўна на каленях*
*маё найменне*
*палянка*
*палянцамі называлі нашых людзей*
*бо вёска Грыдзькі*
*стаяла ў полі чыстым*
*wiekuiste**

**5 лістапада 2021**

*вечна (з польскай)



Сяргей ВЕРАЦІЛА

# Эпоха звера

## Фрагменты рамана

*Звер ёсць у кожным з нас, і толькі ад асобы самога чалавека залежыць, прачнуцца яму альбо згінуць назаўсёды.*

Хранометр адлічвае час назад: 5… 4… 3… 2… 1… 0… Пуск!

Выбух. І ракета, адштурхваючыся ад зямлі вогненным хвастом, імкнецца ў неба, бліжэй да Сонца, у тую цемру, што шчыльнай паўсфераю матавага шкла пакрывае Зямлю. Прынамсі, так бачыць касмічнае неба нашае вока. Гул рухавіка расцячэцца ў прасторы і вернецца ў нейкае месца, прынесшы на сваіх крылах галасы. Але калі вернецца гук? Хутчэй за ўсё, заўтра-праз-дзесяць-тысяч-вякоў, а можа, пасмяяўшыся з законаў нашага зямнога існавання, гук пройдзе чароўнай засмучонай песняю і падасць мне знак. І будзе гэты знак галасамі з цемры.

**Інкрустацыя з галасоў:**

— Дзеда, няўжо ўсё гэта адбудзецца?

— Што «ўсё?»

— Ну тое, што павінна адбыцца, няўжо будзе?

— А што табе яшчэ хочацца ведаць?

— Я хачу ведаць, навошта паўтараецца казка, кім быў прыдуманы дождж, чаму ад прыгожага жыцця агню застаецца шэры попел, чаму я не магу абняць вецер і каго можна не лічыць вар'ятам, калі гэты свет пакінула музыка?

— Гэта ўсё?

— Не. Яшчэ я хачу ведаць, калі заканчваюцца пытанні і колькі на іх існуе адказаў.

**Другая, аўтарская, метэаралагічная:**

— А можа, і не было ніякіх галасоў. Можа, прымроіў, як халоднай зімой мроіцца лета, як быццам і не было яго. Ды і як можна паверыць, калі за акном лютуе вецер, і голыя дрэвы напагатове туляцца хоць да неба.

— Можа, яно абагрэе?

І краявід за акном нудзіць душу і маркоціць вока. Ды і краявідам гэта назваць цяжка. У перарывістым чатырохкутніку квартала — хлеўчукі, пясочніца, кустоўе, дрэвы. Усё гэта патыхае галечаю, якую дарэмна стараецца прыхаваць вечар, на самсправе ён толькі падкрэслівае заваконнае ўбоства. І нічога асабліва й не разгледзіш. А воку хочацца, каб позірк моцным рыўком рассёк, разарваў сумны краявід, а за ім… каб ажно балюча ад бліскучай сонечнай плыні. І тады можна паверыць у рэальнасць голаса, няхай сабе і свайго. А пакуль толькі вецер, халодны вецер спрабуе разгрызці шкло, гэтак яго турбуе ўтульнасць чалавечага жытла.

***

Машына распарола фарамі начную цемень двара і спынілася, не даехаўшы да пад'езда. Кот ля дзвярэй адразу затурбаваўся. З машыны абавязкова выйдуць людзі, і ён зможа за імі ўпіхнуць сваё гнуткае цела ў цёплае сутонне пад'езда. Што людзі з машыны пройдуць менавіта ў гэты пад'езд, кот не сумняваўся ўсёй моцай інстынкту. Рухавік не спынілі — значыцца, увойдуць хутка і ненадоўга і, можа быць, не звернуць увагі на зацерханую, згаладалую жывёлу.

З машыны выйшлі два мужчыны. Аднолькава высокія ў высокіх, вышэй ад кален, хромавых ботах, у чорных бліскучых скураных паліто, у скураных капелюшах, насунутых нізка да чорных акуляраў, высока паднятыя каўняры паліто хавалі ніжнюю частку твараў. Для поўнай карціны не хапала толькі скураных пальчатак. А можа, і яны меліся, бо нешта адтапырвала кішэні. Нахлёст ветру адсунуў хмару на захад, і слабае святло маладзічка адразу ж падкрэсліла сіямскую ненатуральнасць спарыша ў чорнай бліскучай скуры.

Вецер яшчэ больш раз'юшыўся і з нейкай вар'яцкай асалодаю зрываў з дрэваў паўмёртвае лісце. Яно асыпалася з трывожным шолахам, настолькі трывожным, што натура тонкая і чуллівая магла пачуць у ім галасы. І гэтыя галасы былі варожымі, як і чвяканне струмянёў дажджу сярод апалай лістоты. Ноч нібы ўтойвала ў сабе тысячагаловую пачвару: адны галовы скавыталі, падрабляючыся пад вецер, іншыя прагна чвякалі душамі неасцярожных, астатнія жалосна шалахцелі, незадаволеныя сваім лёсам.

Кот напружыўся, але ягоная ўпэўненнасць не спраўдзілася. Людзі не рушылі да пад'езда, а спыніліся перад машынаю. Адзін абапёрся на капот, другі дастаў з кішэні штосьці пляскатае і прапанаваў:

— Закурым?

— Ого! «Герцеговина-Флор»! У вас, товарищ старший лейтенант, как у Самого…

У ягоным голасе адчувалася шчырае захапленне, а канец фразы прыцішыла чуллівасць. Наогул, эмоцыя неяк не звязвалася з чорнабліскучай аднастайнасцю вопраткі. Той, ля капота, узяў папяросу, і скрыначка зноў перакачавала ў гаспадарскую кішэнь. Яны закурылі. Кожны пасобку. Адвярнуўшыся ад ветру. Старанна хаваючы між далоняў агеньчык. Зрабілі па зацяжцы і, выпускаючы дым, адначасова зірнулі ўверх. Ва ўсім доме свяцілася толькі адно акно, і гэтае акно было мэтаю іхняга прыезду. Акно не толькі свяцілася, з яго яшчэ даносілася музыка. Ціхая, час быў позні.

— Шопэн, — неяк абыякава сказаў гаспадар папяросаў, якога назвалі лейтэнантам.

— Вы всё знаете, товарищ старший лейтенант! — зноў захапіўся другі, той, што стаяў ля капота.

— Всё не всё, но работа у нас такая, чтобы всё знать.

— И что… я тоже буду знать так много, как и вы ?

— Будешь, но не столько.

— Почему? Я хочу знать много.

— Во многие мудрости — многие печали.

— Что вы сказали, товарищ старший лейтенант?

— Я говорю: у нас знают столько, сколько положено.

Старшы лейтэнант адказваў ціха, спакойна, нават абыякава. І гэтая абыякавасць паказвала на тое, як мала вартасці ён надае сваёй наяўнай інтэлектуальнай перавазе.

— А кто это сказал?

— Соломон. Один еврей.

— Бундовец? Ревизионист?

— Да нет. Он давно жил, более двух тысяч лет назад.

— Наверное, умный был, раз вы о нем помните. Нам бы его сюда, нам умные люди ой как нужны. Мы ведь сейчас строим новую жизнь, и у нас ему бы работа нашлась.

— А может, он у нас и работает?

— Ну и шуточки у вас, товарищ старший лейтенант! А мне все равно хотелось бы знать много. Вот я специальность получил и уже работаю шофером, а не в забое, а если бы мне образование… — Голас шафёра ў канцы фразы стаў мяккім і, здаецца, зараз пацячэ растопленым салам. — У нас в деревне одна бабка была: и шептала, и могла от суроку спасти, и знала, какая погода будет, и краденое находила. К ней все шли. Лучше попа жила.

— И где она теперь?

— Выслали.

— Многознание уму не научает, — усміхнуўся старшы лейтэнант, ведаючы, што іронія шафёра не дастане.

— А кто это сказал?

— Гераклит Темный.

— Ну, раз темный, то и записывать не следует. Хотя и хорошо сказано.

— А ну, постой! Ты что, записываешь?

Толькі цяпер старшы лейтэнант убачыў у шафёравых руках невялікі, але ёмісты нататнік у чорнай і бліскучай вокладцы, ад яе старонкі здаваліся ненатуральна белымі.

— А я всегда за вами записываю.

— Да я тебя, блядь, суку этакую, в пыль лагерную разотру! Вошь барачная!

— А вы не волнуйтесь, товарищ старший лейтенант, рапорт то все равно мне писать.

Старшы лейтэнант сцішыўся так жа хутка, як і выбухнуў. Уменне валодаць сваімі нервамі і целам ён лічыў найвышэйшымі сваімі вартасцямі і ганарыўся імі куды болей, чымсьці ведамі.

— Ладно, извини. Погорячился.

Скрыначка з папяросамі зноў выплыла з кішэні. Мужчыны закурылі.

— А этот, ну этот… как его? — замяўся, нешта ўзгадваючыся, шафёр.

— Кто этот? — насцярожыўся лейтэнант.

— Ну, этот, который музыку написал… Кто он?

— А, Шопэн, — чамусьці з палёгкаю выдыхнуў старшы лейтэнант. Вопытнае вока, дарэчы, адразу б заўважыла, як у яго дрыжаць рукі — па трымценні агеньчыку папяросы. — Поляк. Музыкант. Нравится?

— Мгм… — адказ быў шматзначны. «Белабандыт. Сука. Пілсудчык», — падумаў шафёр, але ўголас рэзюмаваць не стаў. Дакурвалі моўчкі. Кот увесь звёўся ў чаканні, калі адтуліцца цёплая зеўра пад'езда. Нарэшце, здаецца, дачакаўся. Дакурылі. Акуратна прыціснулі ботамі агеньчыкі. Старшы лейтэнант паправіў паліто і рушыў. За ім адарваўся ад капота і шафёр.

**Песня праз акно**

І яшчэ адно акно не згасала па начах у гэтым горадзе. Праўда, з яго не чуваць было музыкі, і пра тое, што акно не згасала, можна было згадацца па вузкай палосцы жоўтага святла, што прарывалася ў прастору, утвораную не ўсутыч ссунутымі шторамі. Шторы былі сшытыя з чырвонага аксаміту, і здавалася, што яны проста літыя, бо складкі штораў ніколі не рухаў ні вецер, што часам залятаў у расчыненую фортку, ні рука таго, хто начаваў за гэтым асветленым шклом.

Дом, у якім на трэцім паверсе не згасала вакно, не меў увахода з вуліцы: уваход быў з двара, але вельмі рэдка людзі наведвалі гэты дом завулкамі, утворанымі рознымі прыбудовамі, што прымыкалі да будынка. Куды часцей гэта былі чорныя аўтамабілі з зацемненымі вокнамі. Іхнія пасажыры заставаліся невядомымі звычайнаму чалавеку. Але звычайны чалавек і не імкнуўся ведаць пра таямнічых насельнікаў і наведвальнікаў гэтага будынка. Нават калі чалавеку трэба было па справах завярнуць на суседнюю вуліцу, ён рабіў гэта недзе за паўтысячы крокаў далей. І калі каму даводзілася праходзіць каля дома, дык чалавек прыспешваў хаду і стараўся нат лішні раз не зірнуць у той бок, дзе па начах не згасала акно. Нават аўтамабілі, здавалася, ехалі неяк незаўважней, а ўначы праляталі міма з максімальнай хуткасцю. Менавіта ўначы найбольш адчувалася гэтая насцярога, гэты прымхлівы спалох, калі праз не зусім шчыльна ссунутыя важкія, з бардовага аксаміту, нерухомыя, быццам літыя з металу шторы вастраю шабляю прарывалася тонкая палоска жоўтага святла.

І гэтая шабля палавініла акно на дзве часткі, імкнулася далей і глыбей, сепаруючы ўсё: горад, душы, сем'і, народы, краіны, — нашыя — нянашыя, добрыя — кепскія, левыя — правыя, лепшыя — горшыя… І вызначаў гэтыя якасці Той, хто сядзеў за шклом акна, што ніколі не згасала. Вялікалобы з запалымі ад вечнага бяссоння вачыма, з тонкімі стамлёнымі паперамі і асадкаю між пальцамі. Якая думка пульсавала, схаваная за вялікім ілбом, якое сэрца тахкала за мяккаю тканінай фрэнча? Адказ мог быць толькі адназначны: вялікая думка і вялікае сэрца вялікага чалавека. Адным словам — Важар, вялікалобы, вялікадумны, вялікавокі, вялікасэрдны, вялікадушны, вяліканогі…

**Другая інтэрдыкцыя**

— Дзеда, дзеда! А я сон бачыў.

— Сны не бачаць, а сняць.

— Деда, дык я сніў…

— Пра філосафа, які сніў, што ён мятлушка, якая сніла, што…

— Ды не. Гэта я раней сніў. І адкуль ты ведаеш? Я ж табе пра яго ніколі не расказваў.

— Хы-хы…

— Ты заўсёды з мяне пасмейваешся. А калі я стану старым, я таксама буду ведаць усё, як і ты?

— Ты не станеш старым.

— Як гэта… не стану? Ты ж стаў.

— Я быў.

— Так. Ты быў маленькім, а потым вырас і стаў дзедам. І я вырасту і стану дзедам, і буду хадзіць з маленькім хлопчыкам уздоўж берага, адказваць на пытанні і ўсміхацца.

— Толькі берага гэтага не будзе…

— Як гэта не будзе? Гэты бераг будзе заўсёды. Нас не стане, а бераг будзе. Мы ідзем, а бераг застаецца, і мы вяртаемся да яго, і мора шануе пясок і сцірае сляды выпадковых слоў. А за даляглядам — новы бераг, да яго імкнецца душа, а сэрца — да гэтага берага. І люба́я ракавінка лёгка пацвердзіць сваім шамаценнем нязменлівасць гэтага мора, гэтых хваляў, гэтага берага. Нас не стане… А нас не стане?

— Не стане, не стане, не стане, так проста, прасцей не бывае.

— Мора падрабляе словы. Толькі я разабраць іх не магу. Я не ведаю ягонае мовы.

***

Недзе далёка загудзела машына. Гук было добра чуваць, бо тут заўсёды было ціха. Ён скалымнуўся: «Усё, пара». Ён ні хвіліны не сумняваўся, што едуць па яго. Яшчэ раз агледзеў пакой. Тут усё было шкада пакідаць, ён сам застаўся б тут. Але і першае, і другое было немагчыма. Яшчэ пазаўчора, не, нават да ўчарашняе раніцы ён жыў спакойна, але гэты тэлефонны званок…

Ён па звычцы ляніва падышоў да апарата, па звычцы ляніва падняў слухаўку, і яму давялося прыкласці максімум намаганняў, каб саслужбоўцы не заўважылі ягонай шалёнай разгубленасці. Потым ён ехаў, збялелы, нават не мог пракампасіраваць талон, бо ліхаманкава трэсліся рукі.

— Па вас прыедуць. Заўтра.

Голас быў уладны, упэўнены і адначасова безінтанацыйны, і ён чамусьці паверыў у тое, што так і будзе.

Два дні ён рыхтаваўся да ўцёкаў, хаця, сказаць па-праўдзе, уцякаць не было куды, бо за жыццё ён ніколі не падумаў пра надзейныя схованкі. Сяброў, якія маглі б рызыкнуць і даць прытулак, ён не меў. У асноўным — жанчыны, але хавацца ў іх ён лічыў ніжэйшым ад сваёй годнасці.

Гук машыны ўсё набліжаўся і набліжаўся. Але ісці не хацелася. Прыходы — сыходы…

— Ну што ж, мы прыходзім дзеля таго, каб пайсці. І калі мы не спяшаемся гэта зрабіць, дык прыходзяць па нас, — яшчэ пазаўчора такая філасафема падняла б яму настрой, яшчэ пазаўчора, не, нават да ўчарашняга ранка, але зусім не сёння.

***

— Ладно. Я пойду.

— Товарищ старший лейтенант, я с вами.

— Оставайся здесь, — лейтэнантаў голас раптам стаў жорсткім і халодным, і шафёру ў галаву не прыйшло аспрэчваць загад камандзіра. Ён і не стаў аспрэчваць, а звярнуўся з просьбаю:

— Товарищ старший лейтенант, можно…

— Я же сказал, нет.

— Товарищ старший лейтенант, я только папироску хотел…

— А, закурить. Возьми все.

— Да нет. Благодарю. Мне и одной хватит.

Заканчэнне на стар. 7 »

« Заканчэнне. Пачатак на стар. 6

# Эпоха звера

## Фрагменты рамана

Старшы лейтэнант паклаў пачак у кішэнь і ўжо хацеў ісці, але нешта незвычайнае ў позірку шафёра прымусіла яго затрымацца.

— Ну, что тебе еще?

— А ўсё-такі дзіўна…

— Что «дзіўна»?

— Кажуць, што ён — сын Самога.

— Я стараюсь об этом не думать.

— Не думаць! — засмяяўся люты вецер.

— Ты что-то сказал?

— Не. Гэта вецер. Ён у такія ночы як быццам гаворыць.

***

У яго, як ён і спадзяваўся, меўся ў запасе час прынамсі дзеля таго, каб здзейсніць адразу два ўлюбеныя заняткі: выкурыць папяросу і выпіць кубак гарачага чаю без цукру. Плюс да таго можна паслухаць пару начніц няшчаснага паляка. У яго яшчэ ёсць час, бо яны звычайна прыязджаюць пасля апоўначы, калі чалавек зусім цёплы і як бы не чакае. Так, звычайна апоўначы. Увечары чалавек чакае, увесь напружыны. Час ідзе, па яго не едуць, і спакваля нараджаецца спадзеў, што, можа быць, не сёння. Ну вось і дзень канчатком мінуў, і не прыехалі. І навошта ім гэта рабіць уначы, калі гэта можна зрабіць удзень, а яшчэ лепей увечары. Яны таксама людзі і таксама любяць спаць па начах. Ну, здаецца, не прыедуць. Можна класціся спаць. Яшчэ колькі будзе трывожна не ў такт гадзінніку тахкаць сэрца, а потым сон канчаткова адрэжа ад жорсткае рэчаіснасці. А тут раз — і нагрымнуць. Мауляў: «Што, сукі, не чакалі?». Мусіць, ёсць нейкая асаблівая асалода ў начным паўсонным разгубленнасці, мокрых ад слёзаў вачэй, мітусні, суправаджаемай прыглушанымі галасамі. Ад слоў такіх, паўтараемых і таму звыкла ніякіх: «Товарищи… Это ошибка… Я буду писать Самому…».

Хаця, мусіць, дарэмна шукаць нейкую логіку ў іх прыездах. Яны едуць і ўначы, і ўранку, і ўдзень, і ўвечары. Вакол ворагі…

Да апоўначы ў яго яшчэ ёсць колькі часу, а потым ён будзе далёка.

***

— Сакратар, — голас быў нягучны, але патрабавальна-ўладны, і яго немагчыма было не пачуць.

Дзверы ціха адчыніліся, і так жа ціха ля стала вырасла маўклівая постаць.

— Вось што, сёння, менавіта сёння, вы павінны яго ўзяць. І, галоўнае, не забудзьцеся пра сшытак. Прынамсі, гэта галоўнае. Я маркую, што ён ужо дапісаў, а калі што, дапіша ў нас. У нас яму не будзе як скардзіцца на недахоп часу. Ідзіце, сакратар, і помніце: галоўнае — сшытак. — І яшчэ наўздагон: — Маркую, дзесяць гадоў яго задаволяць, — і сам ціхенька засмяяўся свайму жарту.

Дзверы ціха зачыніліся за маўклівай постаццю сакратара, функцыяй якога было слухаць, выконваць і маўчаць, а ўладар ціхага настойлівага голаса і кабінета з важкімі, быццам літымі шторамі, прысунуў бліжэй да свайго краю стала паперы і наблізіў да іх стамлёныя тытанічнаю працаю вочы, але літары ніяк не хацелі шыхтавацца ў словы, а непакорліва разбягаліся за белую прастору аркушаў, і тады ён заснуў і сніў усё той жа самы сон. Сон-мрою.



Фота travel.livejournal.com

***

Да апоўначы ў яго ёсць яшчэ колькі часу, а потым ён будзе далёка. Але цікава, хто яго здаў? Хаця, можа быць, яны ўсіх падграбаюць. Яго і так надзіва доўга не бралі. Можна было падумаць, што ён зашаптаны. І ўсё-такі цікава, хто мог? Яна? Не. Яна не магла. Хаця… хаця, хто ведае…

Ён узгадаў ейныя валасы: тонкія, зусім не густыя, колеру бліжэй да ільнянога, ейныя тонкія пяшчотныя (слабыя?) пальцы, амаль дзіцячыя плечыкі, вялікі рот. Дарэчы, рот яму не падабаўся, як і мяккія слабыя вусны, але гэтыя недахопы ўдвая ці ўтрая кампенсавалі ейная вытачаная постаць і невялікія, але пругкія грудзі. Падабалася ейная нявінная шчырасць і бессаромнасць. Яму падабалася назіраць, як яна рухаецца: то рэзка вуглавата, то млосна-замаруджана, падабалася тое, як ён меркаваў, адданае каханне, якім яна ўсім палам свайго юнацтва ўварвалася ў яго жыццё…

Значыцца — яна. А што? Яна — слабы чалавек, праўда, і ён не моцны. А ёй патрэбна апірышча. Ён — апірышча? Смеху варта. Ён калі пакідаў яе, дык думаў, што робіць гэта ёй жа, юнай дурніцы, на карысць. А яна плакала, казала, што гэта неістотна, гаварыла, што не можа без яго. Ён гладзіў яе па галаве і мокрых шчоках і гаварыў, гаварыў, гаварыў… Гаварыў, што так будзе лепш для іх абодвух, што гэта міне, што яна за хуткім часам суцешыцца. І сапраўды, яна вельмі хутка суцешылася, так хутка, што ён і сам не чакаў. Нягледзячы на палёгку, яго нават крыўдзіла такая хуткасць. Жанчыны заўсёды здраджваюць. Ну калі не заўсёды, дык у большасці выпадкаў. Хаця хто лічыў? І Юда не быў жанчынаю.

***

Раптам вецер сціх, і было добра чуваць, як з даху аб тратуар разбіваюцца ў мокры шчэнт буйныя кроплі. А з акна нясмела чуліся гукі фартэпіяна.

Старшы лейтэнант пакрочыў да пад'езда з дзвярыма нявызначанага колеру. Калідор пахнуў вільгаццю і чысцінёй. Іншым разам гэта прыемна здзівіла б афіцэра, але не цяпер. Цяпер ён ішоў, мякка ступаючы па прыступках. Ён ніколі не накладваў на боты набойкі, заўсёды хадзіў ціха, прыемна ўсміхаўся, паказваючы акрайцы роўных частых зубоў. Хто іх бачыў цалкам, той ужо не раскажа.

Ён ішоў ціха, бо не любіў дарэмнага шуму. На пляцоўцы першага паверха па-здрадніцку замітусілася сэрца. Нехта сказаў: «Бомба з гадзіннікавым механізмам — калісьці выбухне». Стук сэрца азваўся ў скронях, і зрабілася млосна.

***

Яго доўга гналі. Людзі на конях з гарачымі зрэнкамі, у цёмных плашчах. Час ад часу гэтыя людзі стралялі проста з коней і ўвесь час выкрыквалі, палохаючы яго. Кулі вельмі блізка плюхаліся ў пясок, уздымаючы струменьчыкі пылу. Некалькі куляў даволі адчувальна жыганулі яго па целе, але звер, не зважаючы на боль, імкнуўся да кустоўя, туды не прарвацца коням, а рудая лістота схавае яго ад пільных позіркаў. Колер ягонае скуры — гэта колер восені.

Ён спакусіўся на мяса бязглуздых авечак, а патрапіў на жаглюючыя кулі і пагоню з неўтаймаваных коней, ашалелага сабачага брэху і высокіх чалавечых галасоў. Калі толькі ён застанецца жывы, то ўжо ніколі не наблізіцца да ўладанняў людзей, каб ніколі ўжо не чуць гэтага гоману, што так пякуча хвошча па нервах. Калі толькі ён застанецца жывы… Але дзеля гэтага трэба дацягнуць да кустоўя.

Кожнае імгненне скарачала ўжо і так нешырокую паласу паміж ім і кустамі. Зямля быццам сама адштурхоўвала ягонае пругкае, спрактыкаванае цела. Ну, яшчэ трохі! Але кожнае імгненне скарачала адлегласць і паміж ім і звар'яцелаю пагоняй. Вецер дзьмуў і нёс варожыя пахі конскага пота, чалавечых целаў, псіны і пораху, і, складзеныя разам, гэтыя пахі былі для яго пахам смерці. Страх безвыходнасці раптам сцебануў па нервах і спаралізаваў волю якраз у тую хвіліну, калі да кустоўя заставалася на адзін кідок цела…

***

Ногі быццам свінцом наліліся, і ад самых пятаў да макаўкі прайшла хваля непрыемнае гарачыні, і ажно пад сэрцам закалола. Старшы лейтэнант ніколі б раней не падумаў, што нейкі звычайны візіт, самая «будзённая аперацыя» можа прымусіць яго так хваляваюцца. І ён тады зрабіў тое, што рабіў ужо некалькі разоў у тых выпадках, калі падводзілі нервы. Гэта было ягонай прыдумкай і ягонай таямніцай, і ў кожным выпадку прымянення спрацоўвала проста выдатна. Ён толькі баяўся адной рэчы: пасля кожнага ўжывання ў яго як бы меншала сілаў, упэўненнасці і з'яўлялася жаданне ўсё часцей і часцей ужываць гэты сродак, нават тады, калі ў гэтым не было асаблівае патрэбы. Гэты таямнічы сродак заключаўся ў тым, што ў хвіліну страху й небяспекі старшы лейтэнант выклікаў у памяці постаць Важара. Той уважліва, па-бацькоўску глядзеў на яго, прыгладжваў невялічкай далонню рудыя з сівізною валасы, а другую руку з зацiснутай піпкай заклаў за спіну і, падобраму ўсміхнуўшыся, нахіляўся да старшага лейтэнанта. І за гэты позірк, за гэтую ўсмешку, за ўвагу Тытана да ягонае мікраскапічнае асобы лейтэнант быў гатовы да любога подзвігу, да любое ахвяры…

Ён лёгка вы́клікаў знаёмы вобраз, і адразу ў нагах стала лёгка, з сэрца зніклі голкі, а непрыемная гарачыня змянілася звычайнай бадзёрасцю, міжволі вочы напоўніліся слязьмі падзякі і бязмежнае любові да Важара ўсіх Важароў. І лейтэнант закрычаў…

***

Секялевіч, а гэта было прозвішча шафёра, праводзіў вачыма лейтэнантаву постаць. Па-шчырасці, яму карцела пайсці разам, але ён не стаў пярэчыць. Ён і так быў задаволены, калі ўбачыў спалох у лейтэнантавых вачах. Успамін пра гэтае імгненне радасна ўзрушыў Секялевіча, і ён падумаў аб прыемным. А самым прыемным у ягоным жыцці была ежа. Толькі не крамная, няхай сабе прыгожа прыгатаваная і прыгожа ўпакаваная. Усе гэтыя гарадскія кілбасы, балыкі, ікра ў бляшанках, шакалад у бліскучай фальзе, пышныя крэмавыя торты, — усё гэта яго зусім не натхняла, можа, толькі акрамя халвы. Ён мог з'есці за раз цэлы кілаграм, асабліва калі халва арахісавая. А так ён звычайна аддаваў перавагу простай вясковай ежы: хрумкім, з пупырышкамі маладым гурочкам, чырвона-фіялетавай радысцы, тугой бручцы, кісла-салодкім лапухам рэвеню, зялёнай цыбулі, маладому беламу часныку, кропу, пятрушцы, ды іншую зеляніну ўжываў цэлымі вехацямі. Да памідораў ён ставіўся раўнадушна. І асабліва прыемна было ўсё гэта есці проста на агародзе, нат не памыўшы, а толькі крыху абцёршы аб штаны. У яго былі моцныя сківіцы, на якіх часта адзін ля аднаго сядзелі моцныя зубы. І сківіцы, і зубы былі быццам адмыслова створаныя дзеля таго, каб крушыць цэлыя горы ежы, якая на іх трапляла. І спраўляліся яны з гэтай задачай выдатна. І трапляла на іх дастаткова, асабліва пасля таго, як пашчасціла патрапіць на працу сюды, у органы. «Да нас у вантробы», — як аднойчы неасцярожна пажартаваў старшы лейтэнант.

Што ж, Секялевіч і гэта занатаваў. Пакуль прытрымае, бо цяпер дастаткова і гэтага спалоху ў лейтэнантавых вачах. У гэтым была свая радасць, але куды большую радасць прыносіла ежа…

***

Старшы лейтэнант яшчэ раз зірнуў на аксамітны лапік, намагаючыся нешта ўспомніць, можа быць, нават нешта вельмі важнае, але на затрымку ў яго не было часу: чакала работа. Прайшоў вузкім калідорчыкам у асветлены пакой, дзе парыпвала заезджаная кружэлка з Гайднам. «Развітальная», — адзначыў старшы лейтэнант. Музыка і спорт былі ягонымі галоўнымі захапленнямі. Работу сваю ён не тое што любіў, а лічыў, што яна нейкім чынам адпавядала ягонай натуры. Вось гэтая адпаведнасць, мусіць, і палохала вышэйшае начальства, таму вось ужо каторы год ягоная кар'ера прымерзла да трох лейтэнанцкіх зорачак.

Яшчэ ў дзвярах ягоны позірк уважліва і пільна аббег пакой: стол завалены, паводле традыцый, кнігамі і паперамі, канапа з падушкай і пледам — у любы час на яе можна прылегчы, над канапай жаночы партрэт, напісаны алеем. Супрацьлеглая ад канапы сцяна аж да самае столі ўстаўленая кнігамі. Ля гэтай кніжнай сцяны на невысокім зэдліку — прайгравальнік з кружэлкай, але гаспадара ў пакоі не было. «На кухні», — скеміў старлей і шпарка кінуўся далей па калідорчыку, які вёў на кухню. Праз некалькі крокаў ён літаральна знерухомеў — перад вачыма быў усё той жа пакой. Матлянуў галавой і нанава накіраваўся па калідоры, і зноў ягоныя вочы напаткалі ўсё той жа пакой са сталом, традыцыйна заваленым кнігамі і паперамі. Зноў матлянуў галавой і пайшоў па калідоры дзеля таго, каб позірк зноў напаткаў той жа самы пакой са сталом, заваленым кнігамі і паперамі, канапу з падушкай і пледам, дзе ў любы час можна прылегчы…

Ён ішоў і кожны раз вяртаўся да знаёмага пакоя. Нарэшце падышоў да стала, над якім вісела самаробная мапа Крыта, намаляваная на ватмане. Зірнуў на стол: «Міфы Грэцыі», план лабірынта, выява Дэдала, невялічкая двулязовая сякерка.

Старшы лейтэнант зразумеў, і яму стала ці то млосна, ці то горача. Сеў і заплакаў, хоць не плакаў нават у маленстве, а цяпер плакаў, і яму рабілася лягчэй, і за гэтай палёгкай след у след ішоў сон. Ён спаў і сніў: Лабірынт, зіхоткія ніткі Арыядны, Медзянога Быка, жанчыну з аголенымі грудзьмі і змеямі ў руках.

— Яны мяне не возьмуць, — прашаптаў ён і сціснуў пальцы. Дзверы ў яго ўласнай кватэры адкрыліся, ён пачуў іхняе рыпенне, рашуча расціснуў пальцы і рухнуў уніз. Падаць было не так страшна і балюча, як ён сабе раней уяўляў, толькі чамусьці зрабілася светла-светла, дарэчы, столькі святла ён ніколі нават уявіць не мог, — цэлае мора, цэлы акіян святла, і, што было самым дзіўным, гэтае святло зусім не рэзала па вачах. Ён ужо збіраўся ўзняцца, як раптам над ім нахілілася постаць з тварам чыстым-чыстым і вачыма, поўнымі незвычайнае цеплыні. І ён запытаў незнаёмца:

— Ты хто?

— Я — анёл.

— Ты адтуль?

— Адтуль.

Ён яшчэ знайшоў сілы, крыху прыўзняўся і, усміхнуўшыся, прашаптаў:

— Яны мяне не возьмуць…

# Я ўсё адно жыву вясной



Фелікс БАТОРЫН

***

*Падзеяў жорны жорстка мелюць,*
*Вятры падзеяў жорстка гнуць.*
*Супроць мяне — зацяты нелюдзь.*
*Ці значыць гэта, што я — людзь?*

***

*Узнёслых зорных слоў бліскучы россып*
*І ціхіх слоў зямная дабрадаць...*
*Ні траў духмяных, ні халодных росаў*
*Я не хацеў бы пошласці аддаць.*

*У змроку крок сухой галінкай хрумснуў,*
*Азваўся лес, дыхнула сенажаць...*
*Даверлівых вачэй, цнатлівых вуснаў*
*Я не хацеў бы пошласці аддаць.*

*На вуліцах бяссонне пасвіць горад,*
*Рэклам агні прывабныя гараць...*
*Ні радасці людское, ані гора*
*Я не хацеў бы пошласці аддаць.*

***

*Плячыма сувої завеі парву,*
*Нагамі сумёты прашыю.*
*Дарэмна чакаць, што зламлю галаву,*
*Скручу сваю ўпартую шыю.*

*Хаця нетрывалая быццам зіма,*
*Але ж замарозіць паспее*
*Таго, ў каго полымя ў сэрцы няма,*
*Хто ў марнасці соннай тупее.*

*Не вартыя нат успаміну яны.*
*Па іхніх духоўных магілах*
*Прайду праз зіму і дайду да вясны,*
*І ўбачу пралескі на схілах.*

***

*Апоўначы ліхтар спрачаўся з поўняй,*
*Хто большы цень адкіне ад мяне.*
*А я раптоўна іншы цень успомніў —*
*Двухкрылы цень анёла на сцяне.*

*Той цень паўстаў у цяжкую гадзіну,*
*Калі не зналі доўга вочы сну.*
*І мне тады паверылася ў дзіва,*
*У цуд і што я шчасця дасягну.*

*Святло лілося срэбнае наўкола,*
*Цяпло ў душу струменіў мне прамень.*
*Я ўдзячнымі вачмі шукаў анёла,*
*Ды не знайшоў нідзе. Быў толькі цень.*

## Аніматару

*Гэта хто там замаячыў —*
*Маска-шлем на галаве,*
*Смешна цвыркае і скача,*
*Нібы конік у траве?*

*Не скачы ты і не цвыркай —*
*Што каленцы мне твае!*
*Не бываў даўно я ў цырку,*
*Мне клаўнады й так стае.*

*Ты мне, братка, лоб памацай:*
*Ці не ў ліхаманцы я?*
*І не трэба анімацый*
*Сярод дзікага звяр'я.*

*Хтосьці брэша, хтосьці вые,*
*Хтосьці злосна дол шкрабе...*
*Дык вазьмі ты чаявыя,*
*Маску скінь — і йдзі сабе.*

***

*У рацэ забыцца ані жаб, ані рыб,*
*Цішыні не кране ані плёск, ані рып,*
*Не выслуе чаўнок па застылай вадзе.*
*Ёсць такая мясціна пад назвай НІДЗЕ.*

*Незалежна ад веры, узросту, прычын,*
*Хто патрапіў сюды, той зрабіўся нічым.*
*Хай у гэтыя воды занесла няўзнак,*
*У краіну жыцця не вярнуцца ніяк.*

*Мы з табою жывем, дзе раса на траве,*
*І дзе птушкі пяюць, і дзе памяць жыве.*
*Над жывою вадой ціхі пошум трысця...*
*Не знясі ты нас, плынь, у раку забыцця.*

***

*Я зоркі прысуну бліжэй да вачэй:*
*Мне трэба разгледзець гірлянды начэй.*

*Я месяц уздзену на палец, і ён*
*Вам будзе бліскучым пярсцёнкам відзён.*

*Старанна ўзаб'ю лугавую траву,*
*Каб стала падушкаю пад галаву.*

*Загробшы ў ахапак, дамоў панясу,*
*Каб сніць-перасніць гэтай явы красу.*

*Рассунуцца сцены, прыўзнімецца столь...*
*Патоль, харастово, маё сэрца, патоль.*

***

***Л. Дранько-Майсюку***

*Празрыстым зернем дождж зямлю засеяў,*
*Каб узышло, чаму пара́ ўзысці.*
*Не так і шмат на свеце жыццясеяў,*
*Іх так няшмат сустрэнеш у жыцці.*

*Узнёсласць дум і шчырасць — іх прыкметы,*
*Па целе — муж, а па цнаце — дзіцё.*
*Для іх жыццё — зусім не самамэта,*
*А мэта іх — надаць жыццю жыццё.*

*Бо біяіснаванне, што мы маем, —*
*Цаною ў пфеніг, пенязь альбо пенс.*
*А што ад жыццясеяў атрымаем,*
*Цаны не мае — толькі вышні сэнс.*

***

*Не думаў я, што думаць давядзецца,*
*Пра што не думаў думаць і павек.*
*І нават з-пад заплюшчаных павек*
*Ад погляду ў сябе нідзе не дзецца.*

***

*Праз падбухторшчыка-завабніка,*
*Змяюку, хітрага, як ліс,*
*Аскома, што ад райскіх яблыкаў,*
*Нас з дому выгнала калісь.*

*Зямля з прадоннямі і багнамі,*
*То акіяны, то пяскі.*
*Мы ж, да пладоў пазнання прагныя,*
*Па ёй шыбуем напраcткі.*

*Здаецца нам, зямное — прэснае,*
*Якойсьці солі не стае.*
*Зрабілася планета цеснаю,*
*Мы ўжо за межамі яе.*

*Праз вынаходніцтвы выбітныя*
*Шчасліва жыць даўно маглі,*
*Ды праз дзікунства першабытнае*
*Мы ўсё грыземся на зямлі.*

## Прыхільнікам былога

*Ваша вера — як яхта*
*з праломленым дном.*
*Для мяне вы каюты на ёй не рыхтуйце.*
*Не частуйце мяне вашым скіслым віном*
*І з'ялчэлаю скваркай сваёй не частуйце.*

*Згасла ваша паходня. Развеецца й дым.*
*З вамі добра ламаць, разбураць і карэжыць.*
*Што было, хай навек застаецца былым,*
*А што будзе, на шчасце —*
*ад вас не залежыць.*

***

*Ухаплюся за грыву завеі,*
*Палячу без вузды, без сядла*
*У краі, дзе ні ведзьмы, ні феі,*
*Ані горада, ані сяла.*

*Праз сумёты, праз гурбы, праз горы,*
*Праз вясёласць, дакуку і злосць,*
*Праз сумненне, праз шчасце і гора*
*Палячу я ў тваю маладосць.*

*Я сарву з нашай долі пячатку*
*Незваротнасці, жорсткай, як боль*
*Нашых стратаў і згуб — і з пачатку —*
*Ты мне верыш? — пачнем мы з табой.*

*Атулю я цябе і сагрэю,*
*Ад нягодаў змагу ўберагчы...*
*Але што гэта? Сціхла завея.*
*Стыне поўня ў марознай начы.*

## Дэспат[1]

**Чугунный скиптр обвил цветами...**

***А. Радзішчаў***
***(ода «Вольнасць»)***

*Узнёсшыся да трона ад сахі,*
*Ён ведаў, што і як, да дробнай шчыліны.*
*Залева і патоп — а ён сухі.*
*Сухмень, віхура — ён жа не запылены.*

*Як ён любіў з народам гаварыць!*
*(Народ маўчаў пад слоўнымі салютамі.)*
*Ён цішыню й спакой умеў стварыць:*
*Нязгодных зацкаваў хартамі лютымі.*

*Здавалася, што вечны ён нібы,*
*Ўвасоблены і ў золаце, і ў мармуры.*
*Але забілі дэспата рабы,*
*А ўсю дзяржаву расцягалі варвары.*

***

*Хто з каратамі, хто за кратамі,*
*Хто з аратымі па палях,*
*Доўжым з тратамі і са стратамі*
*З другам-братам мы трудны шлях.*

***

*Я бачыў дуб, старэйшы за крыніцу,*
*Што з-пад яго струменіць каранёў.*
*Вярша́ліна і ночку ў зараніцах —*
*У водсветах завоблачных агнёў.*

*Яго сукі́ таўшчэйшыя за дрэвы,*
*Што поплеч тут не першы век растуць,*
*А з шуму лісця храмавыя спевы*
*Свой урачысты радавод вядуць.*

*Ён заняпады бачыў, абнаўленні,*
*Як змену поўняў і маладзікоў,*
*І выгадаваў сотні пакаленняў*
*Няўдзячных, ненаедлівых дзікоў.*

***

*У нешта верыў сапраўды,*
*У нешта — напаказ.*
*Між тым сыходзілі гады*
*У прорву з назвай «час».*

*І зразумеў на зломе эр:*
*Не навучыўся жыць.*
*Раскаты свіст ЭССЭССЭССЭРР*
*Усё ўвушшу стаіць.*

*А пад нагамі востры друз*
*Ідэй. І — хоць пamры —*
*Крывяна б'ецца Беларусь*
*У марныя муры.*

***

*Крыўдна адстаць ад аўтобуса.*
*Горай пад часу адстаць —*
*Быццам бы з іншага глобуса*
*Дурнем прад светам паўстаць.*

*Маем вузельчык для памяці*
*Тым, хто жыве як не ў час:*
*Вы хай ад часу адстанеце —*
*Час не адстане ад вас.*

## Мандэльштам

*Ён быў пакутна палахлівы,*
*Баяўся смеласці сваёй,*
*Што зычыла канец жахлівы,*
*Але не змог пярэчыць ёй.*

*І быў ён праз яе забіты.*
*І праваднрскія сыны*
*Зрабілі ўсё, каб быў забыты.*
*Але забытыя яны.*

*Ды зноў выносяцца вірамі,*
*Каб нам нявечыць зрок і слых,*
*І паўстаюць правадырамі*
*Карыкатуры гномаў злых.*

*Куміраў з праху выграбаюць.*
*Нібы па крузе, час бяжыць.*
*Штодзённа б'юць і забіваюць*
*Таго, хто варты вечна жыць.*

***

*Успамін галінасціцца клёнам,*
*Што праз дахі глядзіць на Нямігу.*
*Шэры вечар. У цяню зялёным*
*Мы чытаем Чырвоную Кнігу.*

*Пра яе мы дазналіся з «ЛіМа»,*
*І цікавы нам тэкст адмысловы...*
*І падумаць тады не маглі мы,*
*Што мы ўпішам туды нашу мову.*

***

*Зноў дождж. Па раўчуках лісцё плыве.*
*Зямля ўжо неўзабаве круг завершыць.*
*Я ўсё складаю і складаю вершы,*
*Нібы пакуль хто піша, то й жыве.*

***

*Пад звон вясёлых капяжоў*
*Ляцяць з картавым граем птахі,*
*І пploймы вострых ледзяшоў*
*У рыхлы снег скідаюць дахі.*

*У сэрца я ўпусціў вясну,*
*І ёю я жыву адною.*
*Я нават ноччу сонца сню,*
*Што напаўняе свет вясною.*

*Хай стыне восень за сцяной*
*І снежань мроіцца ў тумане,*
*Я ўсё адно жыву вясной —*
*Той шчодрай, светлай, што настане.*



Фота be.atomiyme.com

[1] Грэч. δεσπότης — валадар. У Візантыйскай імперыі тытул дэспата даравaўся імператарам асобам, да яго набліжаным, пераважна малодшым сынам і ўсыноўленым дзецям (пазней гэтае кола пашырылася, уключыўшы ў сябе і чужых па крыві людзей пры ўмове высокага да іх даверу). Гэты тытул уведзены ў XII ст. імператарам Мануілам I Камнінам. У кіраванне дэспату аддаваліся правінцыі імперыі, якія і менаваліся дэспататамі. Дэспаты карысталіся вялікімі прывілеямі і мелі права насіць адзенне, падобнае да імператарскага. Звычайна іх праўленне бывала суровым і нават жорсткім. Праз гэта насельніцтва дэспататаў, пераважна рабы і ніжэйшыя пласты грамадства, часта пры чужынскіх нападах падтрымлівалі заваёўнікаў, што было адной з прычын паступовага скарачэння тэрыторыі імперыі, а пасля і яе канчатковага падзення.



Альжбета КЕДА

# У мінулае шлях не вядзе, або Вандроўкі аднаго дня

***У мінулае шлях не вядзе...***

***У мінулае сцежка праз сэрца праходзіць. Колькі ішла, столькі гучалі мне гэтыя радкі. Пра іншыя мясціны. Але і пра мае вандроўкі ў тое незваротнае мінулае, куды іду ўжо каторы год. Штогод спасаўскім часам еду на Радзіму. У сваё Шчонава, у сваю Райцу. Каб адсвяткаваць парафіяльнае свята, наведаць службу ў Райцаўскай царкве, прайсці сцяжынамі дзяцінства. І хай тыя сцежкі-дарожкі даўно зараслі ці заараныя, у вандроўках сваіх па родных ваколіцах аднаўляю тое, што было, шукаю мінулае, угледаюся ў ягоныя сляды.***

***Шлях мой самотны, а часам пакутны. Пра гэта ведаю толькі сама і ўсе тыя, каго сустракаю, хто нікому не перакажа. А людзей на тым шляху можна пералічыць на пальцах адное рукі. Яшчэ і застануцца (пра пальцы). Яны (пра людзей) часцей не разумеюць, куды іду, чаго іду... Неяк пазней напішу. А зараз тое, што бачу, каго сустракаю на шляху Райца—Коньдзеўка—Шчонава—Валокі—Мокрава—Валокі—Шчонава—Хвалава—Райца.***

## Пуста, пуста

Прывітаўшыся, развітаўшыся з тымі, што ніколі ўжо не адкажуць, спускалася з шчонаўскае гары. Дарога даўно ўжо не тая, якую неаднойчы змералі ў дзяцінстве мае ногі. Тая даўно ператварылася ў зарослы дзікім лесам равок. Сённяшняя, віляючы, бяжыць пасярэдзіне школьнага пляцу.

Ішла, прыглядалася, шукала сляды мінулага, школьнага. І знайшла-такі! А падказаў мне куст дзікіх вяргіняў, жоўтых кветак, якія працягваюць расці і красаваць, нат калі гаспадары даўно пакінулі свае сядзібы. Прыгледзелася і побач з кветкамі ўбачыла падмурак школы, на якім параслі хілыя дрэўцы.

Але самае смутнае — як выглядае школьная зямля, дзе некалі рос сад, быў добры агарод, квітнелі кветкі. Вось жа, увесь пляц зарос асотам, лопухам, крапівою. І ўсё гэта ажно буяе, выцягнуўшыся вышэй чалавечага росту. А гэта ж самы цэнтр майго Шчонава, насупраць нашае хаты, якое таксама даўно няма.

Прыпынілася, каб пастаяць там, дзе была хата. Пляц ад дарогі зарос здзічэлымі яблінямі, слівамі. Прыгледзелася, ажно свеціцца мне між зараснікў чырвоная маліна, мо апошняя сёлетняя ягада, праўнучка тых малінаў, якія калісьці садзіла наша мама...

Пайшла вуліцаю, якая здаўна мела неафіцыйную назву Варэ. Усё як заўсёды: пусты, зарослы Гэлін пляц, маленькая, даўно нежылая хата Соні Прымачышынай, акуратная сядзіба Колі Тамашовага... Падзівілася, што ўсё яшчэ ліпее маленькая Ёўнава хатка, якая ўжо і тады, у далёкія шасцідзясятыя, выглядала вельмі марна...

Не магла абысці хату цёткі Фані Лысішынай. Падавалася, там застыў час. Ад гора, ад якога ніяк не адыдзе гаспадыня, якая ўжо колькі гадоў пахавала сына. Толькі пра яго размова, па ім слёзы, якія, падавалася б, даўно мусілі быць выплаканымі. Сядзелі яны з Мілкаю, малодшаю сястрою, поўнячыся безнадзейнасцю, смуткам. А побач бегаў маленькі светлы хлопчык, унук цёткі Фані, сынок малодшага Колі...

І ўсюды пуста-пуста. Не сустрэла на вуліцы ні аднаго чалавека.

## Зямчатка

Колькі ішла па Шчонаве, столькі ўглядалася: як бы гэта дайсці да Зямчаткі, рэчкі майго маленства? У тыя часы паміж сядзібамі і рэчкай былі прыгожыя луг, якога і касіць не трэба было. Бо ад ранняе вясны, як толькі травіца паказвалася, выскубаўся, спасваўся кароўкамі, конікамі, авечкамі, свінкамі. Стоптваўся дзіцячымі нагамі. Футбольнае поле тут было, вароты стаялі. Бліжэй да дарогі — валейбольнае. Балота — так па-шчонаўску. А насупраць кожнае сядзібы — кладка, дбайным гаспадарам зробленая. Тут гаспадыні бялізну паласкалі, гародніну мылі. Мама казала, калі са Шчонава перазджаць збіраліся: «Калі там рэчкі не будзе, не паеду». Рэчка была і не была. Паехала, дзе дзелася.

Былі і такія юныя паненкі, як аўтарка «Шчонаўскіх абразкоў», што і без жаднае справы да рэчкі хадзілі. На вадзіцу паглядзець, па беразе пахадзіць, пасядзець, падумаць, куды вадзіца плыве, памарыць.

Вясною перапапўнялася Зямчатка, поўныя берагі вады бурлівае. Страшна! Але як цікава! Мама страшыла:

— Асцярожна там, каля рэчкі, каб бераг не абваліўся, каб у ваду не ўпала...

Вось жа, прыглядалася, прыглядалася і нічога не ўгледзела. Няма даўно ні тых лугоў мурожных, ні сцежак, ні кладак. Усё бур'яном зарасло. Спадзявалася, мо каля Фані Лысішынай, дзе малады гаспадар, да рэчкі прайсці можна. Ды дзе там...

Шчонава прайшоўшы, Варэ прамінуўшы, да Валокаў дайшла, да Батракоў. Вуліца валоцкая так называецца, бо засяліліся тут калісьці батракі са шчонаўскага маёнтка. Бачу, хата дагледжаная, акуратная, і плот ажно да Зямчаткі. Мусіць, дайсці да рэчкі можна. Тое, што мне трэба. Але ж не дойдзеш: замок на дзвярах...

Якая радасць! Насупраць хаты Клеманавых скошана, да самага брода дайсці можна. Цікава, як ён называецца, мо Клеманаў? Дайшла нарэшце! Па беразе пахадзіла, пастаяла, пасядзела. Ногі халоднаю вадою астудзіла, далоні абмыла...

Файна, хораша...

У такі гарачы дзень лепшага адпачынку, чым на рэчцы, няма-шака. Хоць і тут, у Валоках, душа мая выбольвала па тым, што было і чаго няма. Без гаспадароў застаўшыся, зарастаюць хаты. Дзе яшчэ з зашклёнымі шыбамі, а дзе ўжо і выбітымі. І мёртвая крама валоцкая. Пакуль яшчэ не закапалі, як у Шчонаве. Асабліва кранула: хата пакінутая, і гняздо буслінае побач таксама апусцелае, пахіленае...

## Мокрава

Гэтая маленькая вёсачка здаўна вабіла малую шчонаўку. Ведала, што там пахаваны яе продкі.



Фота wikiwand.com

Праўда, далей за імёны прадзедаў Сымона і Рамана веды не сягалі. Ужо ў яе зачынныя шасцідзясятыя гады тыя магілы былі даўно страчаныя. Чаму так нядбайна ставіліся людзі да сваіх магілаў? Без асуджэння пытаецца сёння. Бо ведае, як жылі яны, бедныя ўдовы, пасля вайны. Не жылі, выжывалі, жылы з сябе цягнучы, дзяцей падымаючы. Не да магілаў ім было. Дзе ж та няшчасная Волька Барэйчыха ў няблізкае Мокрава даляцець магла, калі нават летам уставала зацемна і спаць клалася, калі даўно ўжо ночка прыйдзе і пастаіць. То і нямашака магілаў яе бацькі Сымона, і яе бацькоў Сымона і Агаты. Сёстры Вольчыны Ганна і Алена таксама ў адвечнай працы, працы... І нат пазнейшая магіла брата Паўлюка таксама страчаная. Ягоная жонка Ганна Паўлючыха з трыма дзеткамі за жыццё ой як змагалася. Во дзе быў фронт!.. Так і з іншымі магіламі ўсіх шчонаўцаў.

Нехта скажа, што не было ў нашых людзей культуры, традыцыі магілы продкаў шанаваць. І будзе мець рацыю...

Вось жа, гэтым разам вырашыла да Мокрава дайсці. Была там толькі аднойчы малою дзяўчынкай на пахаванні Сашы Будзейкавага. Во ўжо горачка было! Не толькі няшчаснай удаве Лёлі, што апошняга сыночка маладзенькага ў магілу клала, але і ўсім Валокам, Мокраву. І яе Шчонаву таксама. І не таму нават, што нявеста Сашава са Шчонава была. А таму, што шкадавалі ўсе і маладога хлопца, і няшчасную маці...

Не ведала, як дакладна да Мокрава дайсці, бо знак на ростанях каля даўно зачыненай валоцкае крамы нейкі няпэўны, можна ў розных напрамках пайсці. Павярнула на валоцкую вуліцу, каб спраўдзіць дарогу. Зноў пуста, зноў нікога нідзе. Ні на вуліцы, ні пры хатах. Нарэшце ўгледзела на адным надворку трох немаладых мужчынаў. Прывіталася. Не паспела пра сваю справу сказаць, як засыпалі пытаннямі: «Куды ідзеш? Чыя ты? Каго шукаеш?». Адзін абрадаваўся, быццам даўно знаёмай: «Я ж цябе ведаю. Ты ў маёй хаце была. Прыязджала да мае маці, з Русланам па Валоках хадзіла». Прыязджала, хадзіла. Было тое два гады таму. Ягоная мама — нявестка шчонаўца Нікіфара Чаркясовага...

Давёў яе ўнук Нікіфараў да тых ростаняў, паказаў, куды на Мокрава ісці. Добра, што спраўдзіла, бо не на тую дарогу ісці збіралася. На Кайшоўскую.

Першае, што заўважыў бы кожны вандроўнік, — велізарныя будынкі сучаснага свінакомплекса. Не туды яна глядзела. А на ўзгорак побач, дзе да сярэдзіны мінулага стагоддзя стаяў маёнтак пана Ждана. Дзе ж яшчэ фермы будаваць? Традыцыя, аднак... Усё тут даўно паніштана, быллём парасло. Толькі цагляны слуп не змаглі разбурыць. Адзіная варта прыгожага, багатага мінулага...

А што сама вёска Мокрава? Як усе тут, у гэтым краі, удалечыні ад вялікіх дарогаў і калгасных цэнтраў. Прагалы паміж рэдкімі хатамі, зарослы асотам. І бязлюддзе. Угледзела на надворку дагледжанае хаты кабету ye веку, прывіталася. Абрадавалася, бо тая не толькі прыязна аддала ёй дабрыдзень, але да весніцаў падышла, спытала, куды ідзе. Гэта так нармальна, правільна — у апусцелай вёсцы да вандроўніка загаварыць, распытаць. Бо не проста ж так тут швэндаецца, справа ж нейкая прывяла. І пагаварылі, нагаварыліся дзве каляжанкі, выкладчыцы. Не ўсё ж ёй з кветкамі, дрэвамі, анямелымі хатамі размаўляць, самой і пытацца, і адказы ўгадваць. Гаспадыня — эканаміст, жыве ў Мінску, як і дачушка, што з сямейкай у роднай мамінай хаце часта бывае. Светла пазайздросціла: усе разам — маці, дачка, унукі...

Уяўляла мокраўскія могілкі інакш, мне змрочнымі, цёмнымі. Адно ж не. Светлыя, мо ад сонечнага дня, мо ад бярозаў, даволі дагледжаныя, з добраю агароджаю. Падзівілася на адну магілку. Навумчыкі Леанід Сямёнавіч і Феафанія Андрэеўна, што пеpажыла свайго мужа на васямнаццаць гадоў. Помнік — адзінае выключэнне з нязменнага правіла. Так, надпісы на беларускай мове. Ды яшчэ і вершаваная эпітафія. Цікава, хто тут беларусам застаўся? Ці дзеці, ці ўнукі, ці мо тэстамэнт бацькоўскі быў, каб на роднай мове напісалі?..

## Вяртанне. Шчонава

Пазнавала на дарозе свае сляды. Нескладана, бо адбіткі ye пантофлікаў, такіх зручных, мяккіх, былі адзіныя, скіраваныя ў Мокрава. Відаць, мала хто ходзіць пешкі ў гэтую маленькую вёску, дзе шматлюдныя толькі могілкі.

Заўсёды больш любіла сам шлях, чым ягоную мэту. Нават на даўно вядомых дарогах праз невялікі час прыкмячала нешта новае. Бачыла, як за некалькі гадзінаў падрос цень ад слупа і пакінутага, пахіленага гнязда на ім каля даўно пакінутае хаты. І сонца ўжо не так настойліва зазглядвала ў закратаваныя вокны валоцкае крамы. Падумала: гэта ж калі пайсці па той вулцы валоцкай да будынка, дзе школа маміна была і які яшчэ ўсё стаіць, дайсці можна. І здымак яшчэ адзін з вучнямі з тых часоў захаваўся. Калісьці дойдзе абавязкова...

Яшчэ ўсё было горача (а гарачыню яна любіла заўсёды), хораша (бо ішла яна па сваіх родных сцежках-дарожках). І самотна-самотна. Бо несамотнай яна магла б быць толькі тады, калі б побач была ye мама, якое ніколі ўжо побач не будзе, або ye дачка, якое тут ніколі побач не будзе...

Падышла да хаты цёці Фані Сцяпанавай. Замка на ганку нямашака. Толькі нейкай вяроўчынай клямка абматаная. Недалёка, значыць, гаспадыня адышла. Ды й недалёка: на высокай шчонаўскай гары яна. З усім сваім родам, з бацькамі, сястрою, пляменнікамі. Пасядзела на лаўцы каля хаты. Згадала, як сядзела тут з гаспадыняю такім жа цёплым днём доўга-доўга. Больш за тры гадзіны. Усё Шчонава ўдоўж і ўпоперак абышлі ва ўспамінах. Упершыню пачула яна тады балесную гісторыю пра тое, чаго не было, ды ад чаго ўсё сваё жыццё невінаватая кабета пакутавала. А яна, Фаня Сцяпанава, у тую гісторыю ўмяшаная была. І таксама ні ў чым не вінаватая... Столькі болю ад таго пеpажыць не аднаму чалавеку давялося, што і цяпер не можа яна пра тое напісаць...

Першы прыпынак-адпачынак мела ў двары Фані Калеснікавай, заўсёды прыветнай да ye, добрай, працавітай, разумнай кабеты. Жыве ye хата, бо гучаць тут галасы сына, нявесткі, унука. Відаць, гаспадыня заслужыла ўрэшце-такі ў Неба спакою, столькі пеpажыўшы, адпакутаваўшы, што не на адно жыццё хапіла б. Панаракала Фаня, што, як і заўсёды, адмовілася госця-вандроўніца і ад кавы, і ад гарбаты. Бо не трэба ёй нічога. Бо птаха яна нябесная, для якой дзень у вандроўцы і без ежы пеpажыць лётка. Без каліва ў роце. Зрэшты, каліва мела: ажынамі частавалася, якіх зараз поўна нарасло. Хай не вельмі буйных, затое смак той самы, з дзяцінства. А самы дарагі пачастунак для ye — гэта цікавая згадка, слова трапнае і слова прыветнае. Згадалі Фаню Сцяпанаву, даведалася, што замок ёсць-такі, на дзвярах, што ў хату вядуць. А бульбу на сотках Федзькі Вададзенькавага, якія працавітая Таня Тунікава дагляде, учора ўсёй грамадою выкапалі. Валадзенька старога, слыннага гаспадара шчонаўскага, шчыра пашкадавалі, бо цяжка было яму, самотнаму, апошнія гады дажываць. Ніяк з кароўкаю расстацца не мог. А сілаў трымаць таксама не меў. І пра тое, што Федзькі, сына ягонага, які ў Маскве жыў, ужо нямашака, даведалася. І шмат яшчэ пра што пачула. А тут і цётка Жэня Сымонішына падышла, бо пачула, што нехта гаворыць. Ад працы свае заўсёднае гаспадынька адаравалася, каб прысесці на хвіліну. Шчыра шкадуе ye госця, бо ж у веку такім паважаным, а ўсё ў клопатах. Ды, відаць, не можа жанчына жыць без працы, не ўмее і не хоча.

Вадзічкі калодзежнае напілася. І ножкі памыла, каб далей лёгка ісці было. Жывая вада ў ye Шчонаве. І Шчонава яшчэ жыве. Дажывае...

...Сядала сонца. Не хавалася за хмары. Сведчыла гэтым, што заўтра, на Спаса, зноў будзе гарачы дзень.

# Надзеі маленькі аркестрык



Валянцін ДУБАТОЎКА

…Усё пачалося з таго, калі да нас прызначылі новага намесніка камандзіра па палітычнай часці. Чарнявы, невысокі, празмерна актыўны капітан, накіраваны на пажарную службу райкамам, хоць і скончыў на трайбаны партыйную школу, але ад прыроды меў хіжы нораў і няўрымслівую прагу зрабіць кар'еру. Дарэчы, гэты наменклатуршчык даводзіўся нейкім далёкім сваяком легендарнай гарадзенскай падпольшчыцы. Карацей, як толькі камісар з'явіўся ў пажарнай часці, наша спакойнае жыццё адышло ў нябыт. Няўрымслівы бальшавік неадкладна ўзяўся за справу. Ён адразу вывеў на «чыстую ваду» нашых глыбока законспіраваных мастакоў-фасадчыкаў, што калымілі грошы, афармляючы павятовыя культурныя цэнтры кумачовымі шыльдамі, кшталту «Мір-Праца-Май», «Мір — народам» і г.д. У сённяшняй нашай «чэснай дзяржаве» такая мазня называецца крэатыўна — «сацыяльны білборд».

Дык вось, пасля таго, як наш палітрук-троешнік адправіў пажарных мастакоў і разваліўшых савецкую эканоміку шабашнікаў на перакоўку, вольныя музыкі нашай часці страшна перапалохаліся за свой далейшы лёс ды імгненна ўцямілі, што за нядоўгім часам і да іхняга гусінага горла дацягнецца мускулістая рука партыйнага каваля светлай будучыні. Каб пакорліва не чакаць непазбежнай экзэкуцыі, мы вырашылі пайсці, так бы мовіць, насустрач надыходзячай навальніцы. Пасля чарговага дзяжурства я ды яшчэ пару такіх жа аматараў рок-музыкі пастукаліся ў кабінет да намесніка з прапановай стварыць у нашай часці музычны калектыў. Ініцыятыва, як кажуць, прайшла сходу. Сапраўды, дзе вы такое бачылі — пажарны рок-гурт.

Актыўны ленінец, як заўсёды, неадкладна ўзяўся за справу. Экспрапрыіраваў на ахоўваемым намі хімкамбінаце патрэбную гурту апаратуру, адвёў неабходнае для рэпетыцый памяшканне ў ленінскім пакоі, дамовіўся з непасрэднымі нашымі камандзірамі. Засталося толькі набраць калектыў і, як кажуць, з песнямі наперад. А ў сувязі з тым, што я быў самы вопытны па часці канцэртнай дзейнасці і самым маладым па ўзросце, мясцовыя «дыназаўры» року даручылі гэтую справу мне. Я дзеля прыстойнаці крыху паўпіраўся, а потым усё ж такі ўзяўся за працу. У свой вольны час праслухваў вакалістаў і размаўляў з музыкамі-адказнікамі, шукаў розныя электронныя прымочкі і ўзгадняў з партыйнымі органамі будучы рэпертуар. Па праўдзе кажучы, такую занудную мудыстыку, якую нам прапанавалі тагачасныя раённыя партыйныя лідэры, трэба было неяк вытрымаць. Але падзецца не было куды.

Пасля непрацяглых рэпетыцый калектыў прадставіў у райкам партыі напрацаваны матэрыял. Я, хоць і меў за плячыма толькі дваццатку, але ўжо даўно не быў адбітым рамантыкам і добра ведаў, што захоча пачуць па большасці імпатэнтная камісія старпёраў з аддзела культуры райкама. Выканаўшы некалькі савецка-патрыятычных кампазіцый з рэпертуару Эдуарда Хіля і Льва Лешчанкі, мы, нарэшце, атрымалі дазвол прадставіць сваю праграму шырому слухачу. Хоць гадасць тую на людзях іграць не вельмі хацелася, але ж, паўтаруся, выйсця іншага не было. Нагрузіўшы напоўніцу просценькія песні савецкіх кампазітараў устаўкамі з рэпертуара «АС/ДС» і «LedZeppelen», мы рушылі пакараць прасторы блакітнавокай. Спачатку выконвалі песні для сваіх саслужыўцаў на рэгіянальных партыйных сходах ды службовых планёрках, а затым нас сталі вывозіць з выступамі ў падшэфныя калгасы і правінцыйныя школы

Камісар быў задавольны, а камандзір часці, у сваю чаргу, нахвальваў руплівага парторга. Толькі пра нас, як вядзецца, ніхто і не ўзгадваў. А хлопцам таксама хацелася славы, усенароднай любові і асабліва матэрыяльных здабыткаў. І, як не дзіва, сам не ведаючы таго, першы бізнэс-праект падкінуў нашаму калектыву ніхто іншы, як усюды існы намеснік па палітычнай часці. А было гэта так.

Ранняй восенню таго года па загаду нашага парторга мы мусілі адыграць вяселле ў нейкага павятовага партыйнага начальніка ў вёсцы Баяры, што на Шчучыншчыне. Дзе знаходзіўся ўзгаданы вышэй слынны населены пункт, мы не ведалі, але, прадчуваючы неблагі «гешэфт», сябры калектыву не дазволілі доўга сябе ўгаворваць. Але на душы ў мяне было чамусьці неспакойна. Справа была ў тым, што калектыў наш хоць і складаўся з добрых, адукаваных музыкаў, усё ж практыкі працы на вясковых вяселлях ён не меў зусім. А застольныя песні гарланіць цэлую ноч — гэта табе не ў «Бары на Замкавай». І мая трывога спраўдзілася хутка. Як толькі наша службовая «Кубань» з немудрагелістым надпісам «Пры пажары тэлефанаваць 01» на кабіне вырулiла з тэрыторыі пажарнай часці, калектыў, не зацягваючы справу, вырашыў адзначыць першую, так бы мовіць, «аладку». Хутка аднекуль узялася пляшка гарэлкі, потым наступная, а потым яшчэ адна. Карацей, праз дзве гадзіны дабраліся мы да вышэй узгаданага гераічнага населенага пункта ўжо на добрым падпітку. З аўтобуса, акрамя мяне, больш на вуліцу выходзіць ніхто не хацеў. Новаспечаныя Полі Макартні і Андрэі Макарэвічы ў адзін голас сталі цвердзіць вясельнікам і вяскоўцам, што такім знакамітым музыкам, як яны, у гэтым глухім засценку не месца. Але грозны позірк таго самага шчучынскага бонзы падзейнічаў на вядучыя творчыя сілы нашага ансамбля выцвяразальна.

Як вядома, на клубныя танцы, што адбываліся ў нашых малюдных тады яшчэ вёсках, як заўсёды збіралася моладзь з усяе ваколіцы. А тут яшчэ прыезд музыкаў з Гародні! Ну, і як заўсёды бывала ў такіх сітуацыях, неяк выпадкова здарыўся канфлікт мясцовых хлопцаў з такімі ж аболтусамі з вёскі Гурнофель, што знаходзілася за тры кіламетры ад месца нашых гастроляў. І вось калі ўжо баярскія майстры кунг-фу пад разгалістаю грушаю пачалі святкаваць заслужаную, як ім здавалася, перамогу, на нашу імправізаваную танцпляцоўку нечакана заехаў здаравенны «КА-700» з прычэпам. Тым, хто не ведае, тлумачу, што гэта найвялікшы трактар, які кольвек выпускала савецкая прамысловасць з часоў Сталіна. На стаптаны вясельнікамі і хатняй жывёлай мурог пачалі саскокваць гурнофельскія фалангісты, да зубоў узброеныя штыкецінамі і рознага кшталту кіямі. Апошнім на шматпакутную баярскую зямлю з кабіны «Кіраўца» няспешна вылез завадатар, які і прывёз узброеных мсціўцаў. Высокі і дужы, як Ахілес, хлапец у закасаных кірзавых ботах няспешна выцягнуў з прычэпа сваёй баявой калясніцы пажарны багор. У святле трактарных фар пабліскваў металічны наканечнік зброі і чырвонага колеру чаранок. Госці і прысутныя на падворку мінакі напружыліся. Завадатар нешта шапнуў сваім «героям Элады», і дысцыплінаваны атрад фалангістаў, патрасаючы прывезенай зброяй, не марудзячы, стаў метадычна акружаць перапалоханых ушчэнт вясельнікаў. Крыкі, шум, лаянка… Вясельнікі, стаўшы сведкамі паразы свайго баявога ар'егарда, рванулі ўрассыпную па бліжэйшых свінінчыках і аборах. Толькі мы, на жаль, збегчы з поля бою аніяк не маглі, бо пад пагрозаю аказалася б казённая апаратура, выдадзеная пад роспіс. Нічога не заставалася, як здацца на міласць пераможцам. Цэлую ноч, аж пакуль на досвітку вяскоўцы не выгналі на пашу сваю жывёлу, нам прыйшлося беспераппынна спяваць гурнофельскім міламанам. І толькі калі Ахілес у закасаных кірзачах зноў ператварыўся ў звычайнага трактарыста калгаса «Зара камунізма», мы з задавальненнем скончылі наш канцэрт, які зацягнуўся.

У мяне часта пытаюцца мае калегі-пісьменнікі, чаму прафісійныя музыкі не любяць папсу. На гэта нескладанае пытанне вычарпальны адказ маглі б даць музыкі «пажарнага гурта» пасля той начной бясконцай дыскатэкі на свежым паветры…

# Жыццё — як спружына



Уінстан ГРУМ

*Уінстан Грум (1943—2020) — амерыканскі раманіст і дакументаліст. Скончыў Універсітэт Алабамы, з 1965 па 1969 гады служыў у войску, удзельнічаў у вайне ў В'етнаме.*

*Аўтар раманаў «Часы лепшыя за гэтыя» (1978), «Толькі» (1984), «Сонца пайшло» (1988), «Такая прыгожая, прыгожая дзяўчына» (1999), «Эль-Паса» (2016). Напісаў шмат дакументальных і публіцыстычных тэкстаў.*

*Найбольш вядомы твор Уінстана Грума — раман «Форэст Гамп». Сусветную вядомасць і папулярнасць кніга атрымала пасля таго, як у 1994 годзе рэжысёр Роберт Зямекіс зняў аднайменны фільм з Томам Хэнксам у галоўнай ролі (стужка атрымала шэсць прэмій «Оскар»).*

*Пасля вялікага поспеху гісторыі пра хлопчыка-інваліда, які вырас і стаў сапраўдным героем Амерыкі, Уінстан Грум напісаў у 1995 годзе працяг першай часткі — раман «Гамп і кампанія». А таксама падрыхтаваў зборнік афарызмаў пад назвай «ГАМПізмы, альбо мудрасці Форэста Гампа».*

*Некаторыя выказванні спадара Гампа ў перакладзе на беларускую мову прапануюцца чытачам «Літаратурнай Беларусі». Часам гучаць надзвычай актуальна…*

— Калі ідзеш у заапарк, заўсёды бяры якую-небудзь ежу, — нават, калі паўсюду вісяць надпісы «Не карміць…»: зразумела, іх павесілі не звяры.

— Усё палівай соўсам «Tabasco». Ён такі востры, што эканоміш ежу.

— Заўсёды май пры сабе столькі грошай, каб пазваніць па тэлефоне і схадзіць у прыбіральню.

— Можаш пама́рыць пра манну нябёсную, аднак лепей не кідай працы.

— Не давярай чалавеку, які кажа, што ў жыцці не выпіў ні кроплі алкаголя.

— Не ліжы нічога, што клеіцца да языка.

— Калі не можаш спяваць чыста, спявай гучна.

— Не чакай дапамогі ад іншых. Калі дапамогуць — добра, а калі не — проста не давядзецца расстройвацца.

— Што б ты ні рабіў, старайся, каб для таго была нагода.

— Калі ідзеш адліць, рабі справу хутка — потым можа не хапіць часу.

— Не грай на саксафоне з мармеладам на вуснах.

— Не грай на фартэпіяна з мармеладам на пальцах.

— Заўсёды будзь добрым для мамы.

— Не давярай тым, хто хоча зняць пра цябе фільм.

— Не паркуй аўтамабіль пад надпісам «Месца зарэзервавана для намесніка шэрыфа».

— Жыццё — як спружына: чым болей выскачыш наперад, тым мацней адкіне назад. Лепей не падскоквай.

— Часам адчуваеш, што на твае плечы ўзвалены вялізны цяжар. І часам ён сапраўды ўзвалены.

— Калі ёсць жаданне нашкодзіць — зрабі гэта, пакуль малады. З цягам часу такі занятак усё цяжэй кінуць.

— Калі павінен выбіраць паміж чысцінёй душы і чысцінёй цела, помні: адно не выключае другога.

— Нават калі ты ідыёт, паспрабуй не нарабіць глупстваў.

— Калі неаднаразова паўтараюць: «Хочам табе дапамагчы», — трымайся за партфель.

— Ідыётам быць няблага, асабліва калі ніхто не бачыць.

— Калі ідзеш наперад, глядзі перад сабой. Калі павернешся — глядзі назад. А калі пераходзіш вуліцу — глядзі ва ўсе бакі.

— Адна справа — несці лухту, іншая — прымаць яе за чыстую манету.

— Не будзь вадой. Не дай сябе набраць.

— Калі не відаць дна, заставайся на месцы. Не нырай.

— Жыццё — як каробка асарці: ніколі не ведаеш, што табе выпадзе.

— Жыві так, каб пад старасць можна было б сказаць: «Прынамсі, сумна не было».

***Пераклаў з англійскай мовы Юры НЕСЦЯРЭНКА***

# П’есы для дзяцей і не толькі

Анатоль ТРАФІМЧЫК

**Т. Сівец. Заўтра будзе сонца! — Мінск: Віктар Хурсік, 2021. — 198 с.**




Таццяна Сівец выступае ў трох іпастасях: паэтэсы, празаіка, драматурга. Пачынала ж на паэтычнай ніве: выдала зборнікі «Праляцець па вясёлцы» (Бібліятэчка часопіса «Маладосць», 2002) і «Ліпеньская навальніца» («Мастацкая літаратура», 2003).

Але якраз праз п’есы яна стала найбольш вядомай. Дадамо: праз дзіцячыя п’есы. Яны з поспехам ішлі ў Тэатры юнага гледача: «Брык і Шуся шукаюць лета» і «Балотная каралева».

У анатаваным выданні сабраны хіба ўсе наяўныя драматургічныя творы аўтаркі. За выключэннем першай — «Амазонкі», — творы разлічаны на дзіцячага рэцыпіента.

Характарыстычная назва першай п’есы адсылае да старажытнагрэцкага міфа пра племя, якое складалася толькі з жанчын. Адзін са штрыхоў іх жыцця і спрычыніўся да наймення мастацкага твора Т. Сівец. Маецца на ўвазе прычыненне шкоды правай малочнай залозе: без яе было лацвей страляць з лука. У мастацкім творы паралель з амазонкамі праведзена на той паставе, што з прычыны анкалогіі некаторым жанчынам даводзіцца ісці на хірургічнае ўмяшальніцтва, каб захаваць здароўе і жыццё. Такою выступае зорка тэлеэкрана вядучая Карына. Для свайго ўзросту яна вельмі паспяховая дзяячка. Сваю працу любіць і жыцця без яе не ўяўляе. Раптам на Карыну навальваецца небяспека не толькі здароўю, але і яе прыгажосці. Гэтая свайго роду пагранічная сітуацыя дазваляе разабрацца і ў самой сабе, і ў акружэнні, дапамагае перафарматаваць парадыгму каштоўнасцей. Нягледзячы на пэўны схематызм узаемадзеяння характараў у творы, заключны акорд гучыць шчыра, па-чалавечы: «Ведаеш, Валя, я толькі цяпер зразумела, якое гэта шчасце — проста жыць. Глядзець на неба... Адчуваць тварам вецер... мне падчас аперацыі сніліся амазонкі... Нібыта я сама сярод іх — змагаюся і перамагаю... Я веру, што магу перамагчы...».

Калі «дарослая» п’еса прасякнута жорсткім рэалізмам, дык дзіцячыя драматургічныя творы Т. Сівец вытрыманы ў казачнай стылістыцы. З іх, аднак, вылучаецца «Шафа», дзеянне якой, паводле падказкі аўтаркі, «можа адбывацца ў трыццатыя гады мінулага стагоддзя». Містыка, фантасмагарызм эпохі ўзнікаюць уваччу дзяцей. Насамрэч, у рэальнасці ўсё празаічней: дарослых пэўныя органы прыбіраюць як сацыяльна небяспечных элементаў. Прычым дапамагае рабіць чорную справу Сусед. У выніку найбольш пакутуюць якраз дзеці — іх адрываюць ад родных і здаюць у прытулак на перавыхаванне.

Адметна, што персанаж, дастатковы вобраз якога ствараецца толькі праз яго імя — Чалавек-у-чорным-фрэнчы, гаворыць не на беларускай мове, як станоўчыя персанажы: «Ты будешь жить в приюте вместе с такими, как ты... Наше гуманное общество дает тебе шанс на новую жизнь. Но ты должна будешь заслужить право занять место в рядах верных последователей нашей...». Астатнія адмоўныя дзеючыя асобы нярэдка прымяняюць «трасянку». За гэтым сімвалам хаваецца іх тутэйшае паходжанне і супрацоўніцтва з прыхаднямі, пад якіх і адбываецца мімікрыя.

У цэлым дзеянне п’есы, якую можна разглядаць і як антыўтопію, разгортваецца на аснове архетыповых кампанентаў казачнага канфлікту дабра і зла. Адлюстравана, як прадстаўнікі чорных сіл імкнуцца пераkуліць усё з ног на галаву, у першую чаргу каштоўнасныя арыенціры:

«**Марыся**: Мы не злачынцы!

**Першы вартаўнік** (не набліжаючыся да кратаў, здзекліва): Не злачынцы? А што ж вы тут робіце?..

**Ганула**: Мы хацелі...

**Першы вартаўнік** (перапыняе): Вы смяяліся з Яго Вялікасці, распаўсюджвалі шкодныя байкі пра міфічную краіну Белай Ружы, дзе няма караля і ўсе жывуць (вымаўляе, гідліва расцягваючы словы) у зго-о-дзе».

Самога вяршэнства дабра ў п’есе не адлюстравана. Як да яго прыйсці, падказвае сентэнцыя Бабулі:

«**Адэлька**: Бабулечка, няўжо казкі падманваюць?

**Бабуля**: Не, унучка. Яны дапамагаюць верыць, што ўсё закончыцца добра».

Калі гэтая казка адрасаваная не толькі і, верагодна, не столькі дзіцячай аўдыторыі, дык астатнія разлічаны толькі на яе. Творы маюць светлыя таны. Адна п’еса дала назву ўсёй кнізе. Гэта радыёп’еса паводле славацкай народнай казкі «У гасцях у сонейка».

Т. Сівец адчувае брак драматургічнага матэрыялу для дзяцей у айчынным літаратурным працэсе і стараецца палепшыць наяўны стан, робячы гэта не без поспеху. У пабудове сюжэтных ліній аўтарка звяртаецца да прыгодніцкіх калізій. Гэта забяспечвае інтрыгу і трымае ўвагу чытача (ці гледача). Таму важна было не збівацца на таўталогію, перайманні ў развіцці дзеяння і характараў. Дый арыгінальнасцю завязкі сёння не так лёгка захапіць, шчыра скажам, распешчанага рэцыпіента. Т. Сівец удаецца справіцца з вырашэннем такіх задач.

Напрыклад, Брык і Шуся кідаюцца на пошукі Краіны вечнага лета. Гэтай цудоўнай пары́, канечне, яны не знаходзяць, яе трэба дачакацца. Але яны праз пераадоленне перашкод спасцігаюць важнейшую з’яву гэтага жыцця — дружбу.

Галоўныя дзеючыя асобы гэтай казкі перасяляюцца яшчэ ў адну п’есу «Куды прапала малпа Маня?». Гэтым разам дзеянне нагадвае дэтэктыў, але развіваецца ў камедыйны лад. Лейтматывам зноў выступае выхаванне сяброўскіх стасункаў. Ім героі вучацца праз асабістыя памылкі і слабасці. Разблытаць клубок непаразуменняў і дапамагаюць Брык і Шуся. Канцоўкай, якая становіцца завязкай новай інтрыжкі, нібы робіцца падказка, што жыццёвы працэс няспынны і яго шурпатасці давядзецца вырашаць героям на кожным іх кроку.

Дзве п’есы — «КМЧ» і «Не расказвай мне казкі» — разлічаны на школьнікаў, якія падбіраюцца да падлеткавага ўзросту.

У першай выносіцца на мастацкае абмеркаванне вечная праблема бацькоў і дзяцей. Аўтарка з прыцягненнем міфічных істот мадэлюе сітуацыю, каб 13-гадовая дачка зразумела і ацаніла клопаты бацькоў пра яе і выхоўвала ў сабе самастойнасць. Жаданні дачкі спраўджваюцца, але не зусім звычайным чынам: бацькі самі становяцца дзецьмі яе ўзросту, а яна трапляе ў міфічны свет на курсы маладых чараўнікоў (КМЧ).

Усё заканчваецца, як і належыць, добра. Канечне, галоўнай гераіні давялося пераадольваць перашкоды. Але самай складанай з іх аказалася расці над сабой. Урэшце, як адзначае Дабрахожы: «Ты навучылася дараваць ворагам і давяраць сябрам, адрозніваць падман і праўду, ты паверыла ў тое, што можаш змяніць гэты свет у лепшы бок...».

Больш драматычныя перыпетыі даводзіцца перажыць 12-15-гадовым героям п’есы, якая на сцэне атрымала назву «Балотная каралева». Розныя па характарах і лёсах, выхаванні і матэрыяльнай забяспечанасці, яны трапляюць у балотнае каралеўства і вымушаны ратавацца. Аказваецца, што перамагчы злыя сілы магчыма толькі праз дабрыню да свайго акружэння і праз канцэнтрацыю агульных высілкаў. Нягледзячы на недахопы некаторых персанажаў, яны валодаюць і станоўчымі якасцямі. Часам дапамагаюць нават уменні, набытыя не ад правільнага вобразу жыцця. Так, Славік заколкай з валасоў дзяўчыны адмыкае замок іх вязніцы. Як падказваюць тэарэтыкі літаратуры, «толькі ў актыўным узаемадзеянні з навакольнымі абставінамі, са светам, толькі ў барацьбе дзеючая асоба выяўляе сваю ўнутраную сутнасць, сваю індывідуальнасць» (Пяткевіч А. Сюжэт. Кампазіцыя. Характар: Аб прозе Кузьмы Чорнага. Мінск: Маст. літ., 1981).

Галоўным пасылам твора, як падаецца, становіцца наступная ідэя: сваю будучыню мы праграмуем у дзяцінстве. У гэтым узросце чалавек здольны прадухіліць многія вялікія непрыемнасці.

П’еса найбольш напоўнена рэаліямі сучаснага жыцця, пры гэтым цесна пераплеценымі з тыповымі ходамі казкі. У беларускай дзіцячай драматургіі падобныя падыходы апошнім часам даволі распаўсюджаныя. Зразумела, што праз сілу моцнай і трывалай традыцыі, чым характарызуецца беларускае мастацтва наогул, наватарства ў прадукаванні п’ес для дзяцей не стала дамінантай, аднак пашырыла драматургічныя далягляды і аўтарскія магчымасці, дынамізавала творчы працэс у гэтым напрамку. Новае дыханне адкрылася якраз у жанры казкі, маркіраванне формаў якой набыло самы шырокі спектр. Прычым заўважаецца тэндэнцыя да мадэрнізацыі менавіта гэтага, здавалася б, кансерватыўнага жанра. П’еса для дзяцей, калі можна так сказаць, асучасніваецца. Кантамінацыя класічных казачных матываў з рэаліямі дня сённяшняга, а часам і перавага апошніх назіраецца даволі часта. Канфлікты будуюцца на глебе, нярэдка шчодра ўзбагачанай не толькі элементамі сучаснага жыцця чалавечай цывілізацыі, але і актуальнай жыццёвай праблематыкай.

У цэлым п’есы, прадстаўленыя ў кнізе, розныя па сваім тэматычна-жанравым дыяпазоне. Таму можна казаць пра сфарміраванасць Таццяны Сівец як драматурга. У той жа час тым самым прыадкрываецца наяўнасць патэнцыялу, які, можна чакаць, дасць яшчэ большыя ўзыходы на гэтай ніве ў недалёкай будучыні.

## National Book Awards

На лічбавай цырымоніі, паводле паведамлення, апублікаванага на сайце National Book Foundation, былі вызначаны пераможцы ва ўсіх пяці намінацыях 72-га сезона амерыканскай літаратурнай прэміі National Book Awards.

У галоўнай намінацыі «Мастацкая літаратура» лаўрэатам стаў Джэйсан Мот за раман «Кніга пекла» («Hell of a Book»). Гэта ўжо чацвёрты раман аўтара з Паўночнай Караліны, які распавядае пра чарнаскурага пісьменніка, што выправіўся ў рэкламны тур па Штатах для прасоўвання свайго бестсэлера. Кніга ўзнімае пытанні, звязаныя з адносінамі паміж бацькамі і дзецьмі, праблемай творчасці і грошай, а таксама паліцэйскага гвалту ў адносінах да чарнаскурага насельніцтва ЗША і становішча афраамерыканцаў у краіне.

У намінацыі «Нон-фікшн» перамагла Ція Майлз за кнігу «Усё, што яна ўзяла з сабой: падарожжа мяшка Эшлі, талісмана чарнаскурай сям'і», якая расказвае гісторыю трох пакаленняў чарнаскурых жанчын на амерыканскім Поўдні.

У катэгорыі «Паэзія» перамога дасталася зборніку «Бадзягі» («Floaters»), які атрымаў сваю назву ад слоўца, якім атрады памежнай варты на поўдні ЗША называюць мігрантаў, што жадаюць патрапіць на тэрыторыю краіны. Яго аўтар — Марцін Эспада (Martin Espada), фіналіст Пулітцэраўскай прэміі 2007 года, які апублікаваў звыш дваццаці кніг як паэт, эсэіст і перакладчык.

У намінацыі «Мастацкі пераклад» узнагароду падзялілі Эліза Шуа Дзюсапін (Elisa Shua Dusapin) за раман «Зіма ў Сокча» («Hiver à Sokcho»), які быў выдадзены на французскай мове ў 2016 годзе, і Аніса Абас Хігінс (Aneesa Abbas Higgins). У кнізе апісваюцца адносіны карэянкі французскага паходжання і мастака з Францыі, які прыехаў па натхненне ў турыстычнае мястэчка Сокча, размешчанае на мяжы паміж Паўднёвай і Паўночнай Карэямі.

У катэгорыі «Літаратура для падлеткаў» перамагла Малінда Ло (Malinda Lo) за раман «Апошні вечар у «Тэлеграфным клубе» («Last Night at the Telegraph Club»), які распавядае пра каханне двух сямнаццацігадовых дзяўчат, якія жывуць у ЗША ў 1954 годзе.

Пераможцы ў кожнай катэгорыі атрымаюць 10 000 долараў ЗША, фіналісты — 1000 долараў і бронзавы медаль.




Фота nationalbook.org

## 400-годдзе Мальера

Знакаміты французскі драматург-камедыянт Жан-Батыст Мальер нарадзіўся 15 студзеня 1622 года.

Яго сапраўднае прозвішча Поклен (Мальер — сцэнічны псеўданім). Бацька, прыдворны абіўшчык мэблі, забяспечыў свайму сыну выдатную адукацыю: юнак скончыў прэстыжны езуіцкі Крэмонскі каледж, дзе вывучыў латынь, што дазволіла яму чытаць у арыгіналах рымскіх класікаў. Паводле падання, ён пераклаў на французскую мову філасофскую паэму Лукрэцыя «Аб прыродзе рэчаў», але пераклад гэты не захаваўся. Наогул, ад Мальера не засталося аўтографаў. Ягоны почырк вядомы толькі па адзінай пазыковай распісцы.

Адсутнасць арыгіналаў п'ес Мальера спарадзіла вядомы міф аб тым, што яго п'есы насамрэч пісаў П'ер Карнэль.

Не міф, што Мальер ставіў свае аўтарскае мастацтва ніжэй акцёрскага. Ужо ў росквіце славы Мальеру прапанавалі тытул «бессмяротнага» ў Французскай Акадэміі. Але гэта абавязвала адмовіцца ад выхаду на сцэну, і ён аддаў перавагу акцёрскаму рамяству, а не тытулу «бессмяротнага». Дзеля акцёрства ён у маладосці адмовіўся ад юрыдычнай кар'еры і ўвайшоў у адну трупу з камедыянтамі Жазэфам і Мадленай Бежар. Але іх «Бліскучы тэатр» не вытрымаў канкурэнцыі з іншымі парыжскімі трупамі, і яны былі змушаныя трынаццаць гадоў выступаць у розных месцах французскай правінцыі (як плошчавы тэатр), што дало Мальеру вялікі досвед працы на народную публіку.

Але яшчэ важнейшы досвед як драматургу яму дала ўласная гульня на сцэне. У тыя часы не акцёры ўжываліся ў ролі, а ролі пісаліся пад пэўных акцёраў з улікам іх характэрных якасцяў, у тым ліку і камедыйных. Калі, напрыклад, акцёр кульгаў, то менавіта яго Мальер прымушаў часта і хутка перасоўвацца па сцэне. Гэта было жорстка, але… смешна.



Мальер. Праца Жана Антуана Гудона, 1779 г.

Мальер — рашучы рэфарматар камедыйнага тэатра. Ён паставіў камедыю нават вышэй за трагедыю і пры ўсёй знешняй статычнай камедыйнасці ўносіў у яе сюжэты праўдзівы драматызм. Так камедыя са звычайнага фарсу, з якога пачынаў і сам Мальер падчас тулянняў па правінцыі, ператварылася ў мастацтва высокай драмы.

Мастацтва Мальера пазней высока шанаваў Гётэ: «Такі вялікі, што, перачытваючы яго, кожны раз толькі дзіву даешся. Ён — адзіны ў сваім родзе, яго п'есы мяжуюць з трагічным і цалкам захопліваюць, яго ніхто не адважваецца пераймаць…».

Пра мастацтва Мальера з захапленнем адзываўся Міхаіл Булгакаў: «І люблю яго не толькі за тэмы п'ес, за характары яго герояў, але і за надзвычай моцную драматургічную тэхніку. Кожнае з'яўленне дзейснай асобы ў Мальера неабходна, абгрунтавана, інтрыга закручаная так, што звяна выняць нельга». Больш скептычна ацэньваў Мальера Пушкін, супрацьпастаўляючы яму Шэкспіра…

Тым не менш, без Мальера не было б Фанвізіна і Крылова. Уплыў мальераўскага «Мізантропа» на Грыбаедава з яго «мізантропам» Чацкім таксама відавочны. Мальераўскі «фірмовы» прыём прамога звароту акцёра да глядзельнай залы выкарыстаў Гогаль у «Рэвізоры». Ды і сам Пушкін спачатку хацеў назваць свой маленькі шэдэўр «Моцарт і Сальеры» «Зайздрасць», гэта значыць — выкарыстаць той жа мальераўскі метад увасаблення ў персанажа канкрэтнай чалавечай заганы.

Як кожны праўдзівы камедыёграф, Мальер меў мноства ворагаў — і сярод парыжскіх арыстакратаў, чые паводзіны ён неміласэрна высмейваў у «Мешчаніне ў дваранстве», і сярод духавенства, ханжаства якога выкрываў («Тарцюф»).

П'есы Мальера нярэдка забараняліся, але гэта, як бывае, толькі ставала ім дадатковую славу. Да таго ж, да Мальера «дабраволіў» кароль Людовік XIV. З гэтым звязаны апокрыф: парыжскі арцыбіскуп адмовіўся хаваць Мальера на хрысціянскіх могілках з той прычыны, што перад смерцю ён не спавядаўся і не раскаяўся ў акцёрскай прафесіі. Кароль спытаў святара: «На колькі футаў асвечаная зямля на могілках?». «На шэсць, сір», — адказаў арцыбіскуп. «Тады пахавайце яго на глыбіні 8 футаў».

Як і належыць акцёру, Мальер памёр практычна на сцэне. Ужо смяротна хворы, ён працягваў іграць у сваім спектаклі «Уяўны хворы». Падчас адной з дзеяў яму стала кепска. Мальера адвезлі дадому, і праз некалькі гадзін ён памёр.

## Жыццё амерыканцаў — як раман?

Паводле інфармацыі сайта Studyfinds.org, больш за палову амерыканцаў думаюць, што ў іх ёсць добрая ідэя для рамана, але большасць так ніколі і не спрабавалі яго напісаць.

Нядаўняе апытанне дзвюх тысяч рэспандэнтаў з ЗША паказала, што толькі 15% сапраўды пачалі пісаць кнігу, а ўсяго 6% скончылі яе «напалову». 24% паспяхова завяршылі верш, а раман — 8%.

Сярод тых, хто так і не ўзяўся за пяро, 33% заявілі, што найбольшай перашкодай сталі цяжкасці з натхненнем або прыдумваннем ідэй, 26% спасылаліся на недахоп вольнага часу, а яшчэ 16% назвалі сябе перфекцыяністамі, якім не падабаецца ўсё, што яны робяць.

З тых, хто не справіўся з задуманым, 40% прызналіся, што не змаглі прыдумаць канцоўку, а 36% расказалі, што ім надакучылі іх гісторыі ці персанажы.

Трое з пяці апытанцаў лічаць, што пісаць белетрыстыку для падлеткаў ці дзяцей лягчэй, чым для дарослай аўдыторыі. Прыкладна 62% мяркуюць, што такія кнігі лягчэй пісаць, бо яны карацейшыя, а 59% упэўненыя, што для дзяцей пісаць лягчэй.

Іншае апытанне, праведзенае «OnePoll» ад імя «ThriftBooks» напярэдадні Нацыянальнага месяца напісання раманаў, таксама паказала, што 55% рэспандэнтаў думаюць, што іх уласнае жыццё вартае таго, каб стаць кнігай ці фільмам. Больш за палову апытаных (54%) хочуць падзяліцца сваімі праблемамі і тым, як яны іх пераадолелі, у той час як такая ж колькасць амерыканцаў бачаць сябе цікавымі персанажамі.

Цікава, што тыя, хто лічыць сябе заўзятымі чытачамі, значна часцей бачылі сваё жыццё годным кнігі ці фільма.

У заяве прадстаўнік «ThriftBooks» адзначыў: «Кожны год тысячы пісьменнікаў з розным узроўнем досведу з усяго свету ставяць сабе задачу напісаць 50 000 слоў усяго за 30 дзён, што само па сабе з'яўляецца сапраўды неверагодным дасягненнем. Нацыянальны месяц напісання раманаў падкрэслівае той факт, што сачыненне не абавязкова павінна быць індывідуальным заняткам: людзі ствараюць супольнасці і дзеляцца рэсурсамі, каб дапамагчы адзін аднаму ў дасягненні сваіх мэтаў».

Хоць палова рэспандэнтаў не захаплялася чытаннем у школе, 62% з часам сталі больш шанаваць класічныя раманы. Звычайна рэспандэнты ўлюбляліся ў гэтыя гісторыі прыкладна праз 9 гадоў пасля іх першага прачытання ў школе. Узрост і наяўнасць большага жыццёвага досведу змянілі пункт гледжання 55% апытаных. Яшчэ 54% мяркуюць, што прагляд адаптацыі фільмаў дазваляе ім атрымліваць большую прыемнасць ад раманаў.

Вывучыўшы спіс класічных твораў агульнаадукацыйнай школьнай праграмы, рэспандэнты выказалі сваю новую ўдзячнасць раманам «Забіць перасмешніка» Харпер Лі (45%) і «Чалавеу-невідзімцы» Ральфа Элісана (38%), а таксама іншым вядомым творам.



## Расіяне больш чытаюць, а не слухаюць?

Пакуль еўрапейцы ўсё часцей пачынаюць слухаць аўдыёкнігі, расійскія чытачы больш «давяраюць» сваім вачам і аддаюць перавагу чытанню.

Расіяне пераключыліся з электронных кніг на папяровыя, нядаўна адзначыла расійская журналістка Наталля Лебедзева («Российская газета»). Кампанія «Bookmate» правяла даследаванне таго, як у сервісе слухаюць аўдыёкнігі, і высветліла, што ў адрозненне ад Даніі, дзе больш за 70% карыстальнікаў аддаюць перавагу аўдыёкнігам, а не электронным, у Расіі такіх толькі 11%. Дзеля справядлівасці, да іх варта дадаць яшчэ 9% тых, хто актыўна карыстаюцца двума фарматамі. Астатнія ж 80% толькі чытаюць.

Зрэшты, у Расіі ёсць горад, які заслугоўвае звання самага «слухальнага». І гэта не Масква ці Санкт-Пецярбург, як можна было б падумаць, а Мурманск. Там слухае кнігі кожны чацвёрты жыхар. Самым «чытальным» горадам стаў Іркуцк, дзе аўдыёкнігамі цікавяцца толькі 6% карыстальнікаў кніжнага сервісу. Сярэднестатыстычны партрэт слухача ў такі: у асноўным гэта жанчыны (дзве траціны ўсіх карыстальнікаў) ва ўзросце ад 20 да 39 гадоў. Мужчыны таксама ёсць, але іх не больш за 35 працэнтаў.

У сярэднім за мінулы год адзін расіянін ці расіянка праслухалі 19 аўдыёкніг. Калі карыстальнік сервісу і чытае, і слухае, то за год у сярэднім асвойвае 30 кніг, а слухае — 22 кнігі. І для чытанняў, і для праслухоўванняў характэрнае зніжэнне актыўнасці ў пятніцу і выходныя дні. На працягу дня слухач у сярэднім праводзіць з аўдыёкнігай прыкладна на 38 хвілін больш, чым чытач.


Тэлефон для даведак: (8-017) 354-80-91.
Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by
З новымі электроннымі нумарамі «Літаратурнай Беларусі», а таксама з яе мінулагоднімі выданнямі можна пазнаёміцца на інтэрнэтрэсурсах: novychas.online і kamunikat.org.